

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 26 мая 1989 г. № 21 (3483) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


**Учора, 25 мая, у Маскве пачаў работу З'езд народных дэпутатаў СССР.**

**Разгледжаны парадак дня, рэгламент З'езда і даклад Мандатнай камісіі.**

**Ідуць з'ездаўскія дыскусіі.**

## ГАСПАДАРЫ

Правадыры (а мо павадыры?)
Вадзілі доўга па шляхах пакручастых,
Што нават і да гэтае пары
Хадзіць без іх
Ніяк мы не навучымся.
Было спакойна, што ні гавары,
Ісці услед
З вачыма паўзакрытымі
І думаць, што вядуць правадыры
Нас да святліц
З агульнымі карытамі.
Правадыры, нібы павадыры,
У будучае важна пальцам тыцкалі,
Падводзілі ж нас пад манастыры
І, горш таго, —
Пад жорсткія артыкулы.
Чарговай дачакаліся зары,
Зары вясны,
Але глядзім цвяроза мы,
Бо на вяку
Ужо разы са тры
Зара вясны
Змянялася марозамі.
Адно ўгары, другое — у віры
У прыемнай прахалодзе
Свеціць сонейка.
Дык выбірай:
На Праўду курс бяры,
З сапраўднай праўдай
Па шляху сягоння нам.
Мы — сейбіты,
Паэты, цесляры...
Не вінцікі,
Не шпунцікі там нейкія.
Пары гнілой,
Застойнае пары
Зрабілі нас калекамі, няўменамі.
Прачніся, брат,
Шукай, спрабуй, твары!
Прэч з каляін
І агародж заказнікаў!
У рукі свой
Уласны лёс бяры,
Не давярайся
Махлярам-дачаснікам.
...Гары, агонь Кастрычніка, гары!
Раздзьмухваем цябе,
Ледзь не пагаслага.
Цяпер мы самі ўсе — правадыры,
Цяпер мы самі ўсе — гаспадары
Сваёй зямлі
І будучага нашага.

**Мікола ЯНЧАНКА.**

## «МАЛАДЗЁЖНАЯ-89»

Мастацкая крытыка даўно з трывогай адзначае той факт, што выяўленчае мастацтва ў параўнанні з іншымі музамі займае паводле шкалы папулярнасці самую ніжэйшую прыступку. Праўда, у кожным правіле ёсць выключэнні. На выстаўках, дзе экспануюцца калекцыя Хамэра ці палотны Дрэздэнскай галерэі, заўжды шмат людзей, вялікія чэргі ля ўвахода. Іншая карціна на выстаўках сучаснага нашага мастацтва, якія, на жаль, прывабліваюць няшмат аматараў.

Аднак апошнім часам сітуацыя мяняецца да лепшага. І дзякуючы, бадай, таму, што на рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках усё больш замацоўваецца мастацтва «нефармалаў». Напачатку з'яўленне ў лепшых выставачных залах «мастакоў з сутарэнняў» мела ці не скандальнае адценне. Цяпер жа ўжо надараецца магчымасць гаварыць пра сапраўдныя творчыя здабыткі «неафіцыйнага» мастацтва, пра ягоны ўплыў на грамадскую свядомасць.

Мы памятаем, як нязвыкла ўспрымалася ў залах Палаца мастацтваў выстаўка калекцыі Плісанава, аб'яднанняў «Галіна» і «Квадрат». (Кажуць, што той выстаўкай Палац зрабіў фінансавы план за паўгоддзе). Памятаем выстаўку «Формы» ў выставачнай зале на праспекце Машэрава і нарэшце — вялікі поспех пасмяротнай выстаўкі А. Ісачова. А паралельна ішло пранікненне «нефармалаў» у афіцыйныя экспазіцыі, на планавыя выстаўкі Саюза мастакоў. Сённяшняя «Маладзёжная-89» праводзіцца пад эгідай Саюза мастакоў БССР, але па духу і зместу яна, у лепшым сэнсе слова, нефармальная.

Многае з таго, што ў мінулым годзе на рэспубліканскай маладзёжнай толькі вырысоўвалася пункцірам, зараз акрэслена даволі выразна. У экспазіцыі адлюстравана не толькі змена эстэтычных арыенціраў моладзі. Не мінулі ўвагі маладых творцаў сацыяльна-палітычныя падзеі апошняга часу.

Маладосць — гэта пошук свайго месца ў свеце, сваёй мовы ў мастацтве, гэта яшчэ і час вучобы. Тое, што ў сталага майстра ўспрымалася б, магчыма, як некрытычнае перайманне, у маладога — нармальны перыяд вучнёўства, назапашванне вопыту. Сёетое на гэтай выстаўцы нагадвае творы эстонскіх мастакоў, што экспанаваліся ў Палацы мастацтваў у час памятнай дэкады мастацтва Эстоніі на Беларусі. Ну што, у маладых добры густ. У эстонцаў сапраўды ёсць чаму павучыцца.

...Ці даўно, здаецца, удзельнічалі ў маладзёжных выстаўках У. Тоўсцік, М. Селяшчук, У. Савіч. Сённяшняя выстаўка, відаць, апошняя маладзёжная экспазіцыя для В. Альшэўскага, Ф. Янушкевіча, А. Ксяндзова...

Прыходзяць у беларускае мастацтва новыя людзі. Дык хай жа не парываецца сувязь часоў.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**



С. ЛОГВІН. «Першыя пісьмёны».



Ю. МАКАРАЎ. «Тамара».

**Леанід ЯЎМЕНАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

# ВЫБІРАЛІСЯ НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ СІСТЭМА, створаная Сталіным і яго паплечнікамі — не без дапамогі пэўных знешніх і ўнутраных абставін — на глебе пачынаючага сябе сацыялізму, уяўляла сабой неверагодную мешаніну таталітарызму (абсалютнай улады ў грамадстве дзяржавы і яе органаў) і аўтакратыі (абсалютнай бескантрольнай улады і культу кіруючай асобы). Але тыпова «нашай» своеасаблівасцю гэтай сістэмы была канцэнтрацыя ўсёй улады — не толькі партыйнай, не толькі гаспадарча-кіраўнічай, але і дзяржаўнай — менавіта ў гэтым уся «наскасць» спецыфікі — у партыйных апаратах ад райкомаў да цэнтральных камітэтаў, якія ў сваю чаргу знаходзіліся пад практычна неабмежаванай уладай першых асоб гэтых самых камітэтаў.

Невыпадкова выбарныя органы партыі гэтак жа, як і пярвічныя партыйныя арганізацыі, іх бюро і камітэты, а гэта значыць абсалютная доля партыі, мелі права толькі на адзінагалоснае адабрэнне ўсяго, што тварылася ў поўнаўладных кіруючых апаратах пад поўнаўладдзем іх першых кіраўнікоў.

Невыпадкова і тое, што Саветы, народжаныя рэвалюцыйным рухам Расіі і замацаваныя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй як галоўны орган вышэйшай палітычнай улады ў краіне, былі, па сутнасці, зведзены на нішто.

**Трохі перайначаная ў дэталях, гэтая сістэма прынцыпова не змянілася ні ў часы хрушчоўскай адлігі, ні ў часы брэжнеўскага застою. Яна набыла адно менш жорсткія формы праявы, што і ўвасобілася ў так званай камандна-адміністрацыйнай сістэме.**

**Менавіта з абедзвюх гэтых гістарычных з'яў вынікае прычына таго, што ў дакладзе XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі ішла гаворка аб «празмерным адзяржаўленні грамадскага жыцця», аб імкненні спавіць усеабдымным дзяржаўным планаваннем і кантролем «усе куткі жыцця» грамадства, аб «абюракрачванні грамадскіх структур», аб «адлучэнні ад рэальнага ўдзелу ў вырашэнні дзяржаўных і грамадскіх спраў» мільёнаў працоўных, «адчужэнні чалавека працы ад грамадскай уласнасці і кіравання», «акасцяненні сістэмы ўлады», аб «спрошчаным і ўрэзаным вобліку сацыялістычнага народаўладдзя», аб «дэкляраванні дэмакратычных прынцыпаў на словах і аўтарытарнасці на справе»...**

**Нездарма ж у афіцыйных дакументах партыі ідзе сёння гаворка аб неабходнасці пераадолення адчужэння ад кіравання справамі партыі дзесяткаў мільёнаў радавых партыйцаў, аб вяртанні вышэйшых уладных паўнамоцтваў у партыі яе выбарным органам.**

«...Пярвічныя партыйныя арганізацыі, радавыя камуністы ў значнай меры страцілі рэальныя магчымасці ўплываць на змест дзейнасці партыі. Сур'ёзна парушылася важнейшае ленінскае патрабаванне, згодна якому ўсе партыйныя органы, іх кадры павінны знаходзіцца пад пастаянным кантролем партыйных мас. Многія негатыўныя з'явы ў партыі звязаны таксама з аслабленнем ролі выбарных органаў, празмерным разрастаннем ролі апарата на ўсіх узроўнях» (М. С. Гарбачоў).

Нездарма ж сёння, дзякуючы зноў жа XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, у грамадстве і партыі ідзе настойлівая гаворка аб пераадоленні стану адзяржаўлення (огосударствления) партыі, гэта значыць, аб **вяртанні партыйнымі апаратамі функцыі дзяржаўнай палітычнай улады Саветам народных дэпутатаў усіх рангаў** як усенароднаму і агульнанароднаму органу палітычнага кіравання і самакіравання грамадствам.

Менавіта гэтая ідэя закладзена ў адной з задач кардынальнай рэформы палітычнай сістэмы, а іменна ў ідэі «размежавання функцый партыйных і дзяржаўных органаў у адпаведнасці з ленінскай канцэпцыяй ролі Камуністычнай партыі як палітычнага авангарда грамадства і ролі Савецкай дзяржавы як сродка ўлады народа» (М. С. Гарбачоў).

Менавіта гэта меў на ўвазе член Палітбюро, старшыня ідэалагічнай камісіі ЦК КПСС В. А. Мядзведзеў, калі гаварыў 1 сакавіка г. г. у Мінску: «Рэформа палітычнай сістэмы немагчыма без глыбокіх перамен у жыцці самой партыі. Уласна кажучы, яны складаюць сэрцавіну палітычнай рэформы. У абнаўляючым сябе грамадстве павінна дзейнічаць і абнаўляючая сябе партыя — дзейнічаць **як палітычны авангард, што надае агульную накіраванасць развіццю, але не як сіла непасрэдна кіруючая ўсім і ўся. Толькі ў гэтым выпадку можа быць рэалізавана поўнаўладдзе Саветаў...».**

За адзін гэты момант у канцэпцыі рэвалюцыйнай перабудовы сацыялізму ў СССР: **«Рэалізацыя поўнаўладдзя Саветаў як сродка дзяржаўнай палітычнай улады народа, вяртанне Саветам іх галоўнай функцыі быць дзяржаўнай палітычнай уладай працоўных шляхам адмаўлення за партыяй права быць сілай непасрэдна кіруючай усім і ўся»,** разумеючы яе разам з тым як палітычны авангард грамадства,— толькі за адзін гэты момант мы павінны ўжо быць удзячны штабу партыі і яе Генеральнаму сакратару. Бо менавіта гэта пазіцыя ёсць галоўнейшы пункт вяртання ад казарменнага, па сутнасці, дробнабуржуазнага, ураўняльнага, тыпова нашай дамарошчанай мадэлі сацыялізму, скрозь пабітага радзімымі плямамі ўсіх разнавіднасцей сацыяльна-палітычнага мінулага, уключаючы і азіяцка-феадальныя рысы і асаблівасці слабаразвітага дзяржаўнага капіталізму, а часам і элементы нечага больш негатыўнага і старажытнага, — да сацыялізму навуковага і дэмакратычнага, гуманнага і сапраўды агульнанароднага, да сацыялізму **ленінскага, цывілізаванага.**

СЁННЯ, нягледзячы на чацвёрты год перабудовы, на выпрацаваную XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй канцэпцыю радыкальнай палітычнай рэформы, на апраўданы ў цэлым канцэптуальны аптымізм наконт абнаўляючай сябе партыі, становішча рэчаў у палітычнай сістэме пакуль застаецца ў прынцыпе нязменным: выбарныя органы партыйных арганізацый па-ранейшаму не маюць амаль ніякай сілы, кіруючыя апараты па-ранейшаму імкнуцца кіраваць «усім і ўся», іх першыя асобы па-ранейшаму імкнуцца валодаць абсалютнай, не толькі партыйнай, але, па сутнасці, дзяржаўнай уладай, партыйныя арганізацыі, паўсюдна дэкларуючы гэта, па-ранейшаму не становяцца палітычным авангардам грамадства, які вызначае стратэгію развіцця; яны па-ранейшаму ўжываюць у асноўным не ідэйна-палітычныя, а дзяржаўна-адміністрацыйныя камандна-сілавыя метады і сродкі кіравання. У выніку многія з іх па-ранейшаму разглядаюць «бурны працэс палітызацыі мас» як з'яву не толькі непажаданую, але і **негатыўную.**

У шматлікіх выпадках «...партыйныя арганізацыі, нашы кадры ...аказаліся не гатовымі да такога павароту ў развіцці дэмакратычных працэсаў у грамадстве», у выніку «...мы ўсё часцей сутыкаемся з інерцыяй старога мыслення, з жаданнем звярнуцца да старых метадаў, прытармазіць ідучыя працэсы»,— сказаў на красавіцкім Пленуме М. С. Гарбачоў.

**Усё гэта разам узятае сведчыць аб тым, што савецкае сацыялістычнае грамадства знаходзіцца толькі на пачатку параўнаўча доўгага, але галоўнае, НЕПАЗБЕЖНАГА ПЕРАХОДНАГА ПЕРЫЯДУ ад рэальнасцей былой палітычнай сістэмы да рэальнасцей абноўленага сацыялізму з радыкальна абноўленай палітычнай сістэмай, якая ў галоўным і пункцірам азначана ў канцэпцыі перабудовы, прапанаванай ЦК КПСС. Гэта значыць, што параўнаўча ПРАЦЯГЛЫ ЧАС НЕПАЗБЕЖНА будуць жыць многія элементы старой палітычнай сістэмы, старога палітычнага «модус вівендзі», ПАСТУПОВА І НЕ БЕЗ БАРАЦЬБЫ саступаючы дарогу новаму. Менавіта гэтым і тлумачыцца, што «змена старых структур новымі ідзе хваравіта, выклікае складаныя працэсы ў грамадскай свядомасці» (В. А. Мядзведзеў). І не толькі з прычыны тармазных акцый апаратных і шматлікіх іншых бюракратаў і кансерватараў па духу і сутнасці, але з прычыны тармазнога ўплыву тыпова «тэхнічна-арганізацыйнага» характару і яшчэ недастатковага ўзроўню глыбока ўсвядомленай сацыялістычнай палітычнай культуры і палітызацыі працоўных мас.**

Размеркаванне функцый партыйных і дзяржаўных органаў, перадача дзяржаўных уладных паўнамоцтваў Саветам — гэтая сапраўдная рэвалюцыя патрабуе вялікай эвалюцыйнай работы **інтэлекту і разумнай, цывілізаванай, цярплівай палітычнай дзейнасці.** Інакшага выйсця ў нас няма, бо гэта рэвалюцыя звязана з **неабходнасцю радыкальнай трансфармацыі палітычнага мыслення, маралі, псіхалогіі, палітычнага спосабу жыццядзейнасці** — гэта значыць, з неабходнасцю перавывучкі дзесяткаў і соцень мільёнаў людзей (і кансерватараў і радыкалаў). асабліва з кіраўніцкіх паверхаў. Яна патрабуе рэвалюцыйных перамен, вялікай перабудовы — у сапраўды сацыялістычным, дэмакратычным і плюралістычным напрамку — **дзяржаўнага права ды сістэмы грамадзянскіх і палітычных правоў чалавека — стварэння сапраўднай прававой сацыялістычнай дзяржавы.**

Карацей, працэс размежавання функцый партыі і Саветаў, вяртання функцыі дзяржаўнай палітычнай улады Саветам — актыўнага ўключэння ў палітычнае жыццё грамадскіх структур і арганізацый, а праз іх мільёнаў і мільёнаў працоўных — дакладней, працэс радыкальнай палітычнай перабудовы грамадства не магчыма ажыццявіць ні за месяц, ні за год, ні, як мы бачым, за чатыры гады — яго рэалізацыя вымагае даволі працяглага часу складанай паўсядзённай работы.

Першым практычным крокам гэтага пераходнага перыяду з'явіліся нядаўнія выбары народных дэпутатаў СССР. Менавіта таму, а не проста як элемент нейкай агульнай дэмакратызацыі грамадства, яны ўвойдуць у гісторыю сусветнага і айчыннага сацыялізму.

АДПАВЕДНАСЦЮ ці неадпаведнасцю працэсу радыкальнай перабудовы палітычнай сістэмы, распачатаму прагрэсіўнымі сіламі савецкага народа, партыі і дзяржавы, мы, грамадзяне нашай агульнай савецкай Радзімы, кожнай з нашых нацыянальных Радзім, павінны ацэньваць вынікі першых у гісторыі краіны дэмакратычных выбараў. У гэтай сувязі сёння не можа не выклікаць пытанняў адсутнасць спецыяльнай разгорнутай палітычнай ацэнкі гэтай надзвычайнай з'явы. Спроба такой ацэнкі, праўда, зроблена ў рэдакцыйным артыкуле «Звязды» «Выпрабаванне дэмакратыяй» за 30 сакавіка ды ў гутарцы-споведзі «Выбары: вынікі і ўрокі» першага сакратара Мінскага гаркома партыі У. Р. Галко, надрукаванай у газеце «Вячэрні Мінск» за 8 красавіка. Але многія прынцыпова важныя моманты тут абыдзены. Няма, напрыклад, сур'ёзнага аналізу такой небяспечнай з'явы, як амаль паўсюднага «стыхійнага» адхілення прадстаўнікоў рабочага класа і сялянства ў вышэйшым органе ўлады. Справа, у рэшце рэшт, не ў колькасці. Справа ў тым, што тая ці іншая колькасць рабочых і сялян у вышэйшым органе ўлады палітычнай сістэмы, што абнаўляе, перабудоўвае сабе, дае права меркаваць, куды рэальна ідуць гэтае абнаўленне і перабудова.

**У бок стварэння сістэмы, дзе па-ранейшаму будуць кіраваць прадстаўнікі самых розных сфер кіраўнічай бюракратыі і «геніі духа», зноў вяртаючы нас да бюракратычнага сацыялізму? А межавая паласа палітычнага ўдзелу астатніх пачнецца адразу ж пасля таго, як яны апусцяць бюлетэні? Ці ўсё ж у бок стварэння сапраўды дэмакратычнай палітычнай сістэмы сацыялізму, дзе робіцца ўсё, «каб мільёны і мільёны працоўных былі ўключаны ў кіраванне краінай не на словах, а на справе»? У тым ліку прапарцыянальна сваёй колькасці і якасці грамадскай карыснай працы — у вышэйшыя сферы кіравання. Давайце ўдумаемся: па сталіцы Беларусі (тут рабочы клас сярод насельніцтва горада складае 371,5 тысяч чалавек) у Вярхоўны Савет СССР у першым туры абраны толькі адзін рабочы з дзесяці мандатаў, па рэспубліцы з шасцідзесяці мандатаў у тым жа туры — толькі сямёра?! І ўсяго толькі чацвёра калгаснікаў! І гэта ў той час, калі рабочых і калгаснікаў у Беларусі — 4 млн. 225 тысяч (звесткі на 1987 г.). Паўстае пытанне: дык у які ж бок будзе перабудоўвацца наша палітычная сістэма? У бок сацыялістычнай, ці нейкай іншай, скажам, абноўленай «бюрадэмакратыі»? Дарэчы, на мой погляд, самым небяспечным вынікам элітарных выбараў непасрэдна праз грамадскія арганізацыі з'яўляецца якраз стварэнне спрыяльных умоў для выжывання і замацоўвання старой палітычнай сістэмы «бюрадэмакратыі»**

Гаворка, канечне, павінна весціся не толькі аб рабочых і сялянах — аб прадстаўніках усіх працоўных слаёў: простых служачых, інжынерна-тэхнічнай групоўкі, творчай інтэлігенцыі, настаўніцтва, розных слаёў моладзі, медыцынскіх работнікаў і г. д.

Нехта, праўда, можа сказаць на гэты конт: быў ужо ў нас такі Вярхоўны Савет, дзе рабочыя, калгаснікі, іншы просты люд былі прадстаўлены даволі нядрэнна, але выконвалі ролю нямых статыстаў.

На такі закід можа быць толькі адзін адказ: **быў у нас такі гістарычны час, была ў нас такая палітычная сістэма — прадстаўнікі ўсіх сацыяльных класаў і слаёў без выключэння былі ў Вярхоўных Саветах толькі статыстамі.** Ды час той канае, і сістэму гэтую ўсе сумленныя людзі грамадства шчыра хочуць перайначыць.

Лічу, што па сваім становішчы ў грамадстве самай рэвалюцыйнай часткай новага Вярхоўнага Савета патэнцыяльна могуць быць прадстаўнікі рабочага класа, сялянства і служачага «пралетарыяту», бо ў іх няма падставы баяцца страціць нейкае там кіруючае крэсла, новае назначэнне, новае званне, лаўрэацтва: токар паўсюдна будзе патрэбны як токар, трактарыст як трактарыст, медсястра як медсястра.

Канечне, каб рабочыя і сялянскія прадстаўнікі змаглі праявіць у вышэйшых і высокіх органах улады сваю патэнцыяльна рэвалюцыйную сутнасць, трэба вырашыць шмат якія праблемы. Скажам, праблему так званай «рабочай і сялянскай арыстакратыі» — з'явы, якая, калі яе пакінуць нязменнай, застанецца магутным сродкам кіруючых палітычных маніпуляцый воляю, настроем, перакананнямі рабочых і сялян.

Але ў рэчышчы распачатай гаворкі хочацца засяродзіць увагу пакуль на дзвюх са шматлікіх праблем.

Першая. Праблема ідэйна-палітычнай і культурнай адукаванасці ў адпаведнасці з патрэбай часу прадстаўнікоў рабочага класа і сялянства. Што й казаць, у сённяшняй перадвыбарнай барацьбе шмат хто з іх губляў «ачкі» менавіта з гэтай прычыны. Якраз гэты бок падрыхтоўкі і самаўдасканалення працоўных пушчаны на самацёк. Пасля ПТВ нідзе і ніхто сур'ёзна не займаецца (планава і мэтанакіравана, перманентна) гэтай галіной адукацыі працаўнікоў заводаў і палёў. Звышаблегчаныя і нерэгулярныя акцыі таварыства «Веды», сістэма партыйна-палітычнай і камсамольскай вучобы — гэта ўсё ў сэнсе сур'ёзнай пастаяннай ідэйна-палітычнай і культурнай адукацыі шырокіх мас працоўных пакуль што мала дае.

**Там, дзе вучаць гэтаму сур'ёзна, — скажам, у рэспубліканскіх партыйных і камсамольскіх школах, — РАБОЧЫХ І СЯЛЯН НЯМА, ТАМ ЗАЙМАЮЦЦА ФУНКЦЫЯНЕРЫ ДЫ І ТЫЯ ТОЛЬКІ ПЭЎНАГА РАНГУ. Перагляд і ўдасканаленне ўсёй сістэмы ідэйна-палітычнай, прававой, эканамічнай адукацыі, культурнага выхавання непасрэдна рабочых і сялян — гэта не проста асветніцкая задача абнаўляючага сябе грамадства. Гэта адна з яго важнейшых палітычных задач. Чаму б, напрыклад, не стварыць вышэйшыя палітычныя школы і акадэміі для рабочых, сялян, простых служачых, дзе б яны набывалі на працягу, скажам, аднаго-двух гадоў сур'ёзныя веды, не мяняючы свайго сацыяльнага статуса? Ці нешта падобнае? За нашы, да прыкладу, даволі значныя партыйныя і камсамольскія ўзносы? Бо непасрэдны свядомы ўдзел перадавых рабочых і сялян у вярхоўнай уладзе, кіраванні справамі дзяржавы і грамадства на ўсіх узроўнях — гэта галоўны палітычны «козыр» Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і ленінскай сацыялістычнай дэмакратыі.**

Крытыка, бібліяграфія

# НЯСТОМНАСЦЬ ДУШЫ, НЯСТОМНАСЦЬ ДУМКІ

**Янка Брыль. «На сцежцы — дзеці». Апавяданні, мініяцюры, эсэ. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988**

Прызнацца, даўно мяне, тады яшчэ наіўную філфакаўку, уразіла асаблівым нейкім водарам брылёўскае слова. Колькі год прайшло, а памятаецца тое адчуванне, тая радасць, калі дакраналася да свету, які так панадна і хораша праменіўся са старонак надзіва зграбна аформленай «Жмені сонечных промняў». Для мяне Брыль пачаўся з гэтага. Пазней было прачытанне і таго, пра што калісьці не сказалі ў школе, не параілі, не адкрылі...

І вось кніга Я. Брыля «На сцежцы — дзеці». Тут не проста лірычна-пранікнёныя ці востра-з'едлівыя мастацкія замалёўкі, бытавыя сцэнкі ці сюжэтна разгорнутае апавяданне. Тут споведзь. Шчырая, калі не шкадуюць сябе, калі не баяцца паказацца праз тую споведзь чалавекам зямным, без салідкай чыннасці і павучальнай мудрасці, права на якія даюць талент, слава, гады... Пісьменнік не баіцца быць самім сабою. Розным. Такім, калі «на душы — і сцішнавата, і няёмка, і ўрачыста», і такім вось супярэчліва-патрабавальным, які пакутуе ад горкіх успамінаў, які не ўпершыню прыходзіць да «выратавальнага вываду: «змагацца за сябе патрэбна і з самім сабою». «Няўжо-такі ў кожнага з нас, людзей, ёсць больш ды менш такога брыдкага, агіднага, няхай сабе і няшкоднага для іншых, а толькі для цябе самога, і з гэтым брыдкім, агідным лепш маўчаць, душыць яго ў сваёй памяці, несці з сабой у нябыт. З меркаванняў маральнай ахайнасці, гігіены душы».

Найпершае адчуванне, калі пачынаеш чытаць гэтую новую «жменю» дзівосных лятункаў жыцця, — адчуванне чысціні. Некранутай, першаснай, ад якой так шчасна і хораша, аж да прытоенасці дыхання, бо на сцежцы — дзеці. Такія цікаўныя, такія «рассмяяныя, быстрыя», «у цёплым свеце травы», сярод і дрэў, і кветак, і «мудрай цішыні», заняўшы і думкі, і душу разумнага і ўзрушана-занепакоенага дзеда. Поўнае, здаецца, да самазабыцця (на першы погляд), растварэнне, «погружение» ў свет дзіцячых адчуванняў, узаемадачыненняў. І ўсё ж Брыль застаецца Брылём. Нават у такім, скажам, вузка-асабістым свеце ён можа нечакана «пракіпець» трывогай за лёс усеагульны, усечалавечы. Шчасце можа кожную хвіліну знікнуць, бо зямля, як і дзяцінства, безабаронная, кволая. «Безабаронная — ад нас саміх, ад людзей!».

Пераключэнне з адной думкі на другую робіцца без усялякіх, здаецца, намаганняў. Проста і натуральна. Праз даверлівае цяпло дзіцячых ручанятак да чарнобыльскай трагедыі, праз фотаздымак «мужычка», якому ад роду ўсяго год і дзесяць месяцаў, да думкі аб праве кожнага, хто нараджаецца, — жыць, быць падключаным да «безлічы тых пакаленняў што былі, ёсць, будуць».

Я. Брыль не толькі ўдумлівы і назіральны мастак. Ён умее, як сведчыць апошняя кніга, зірнуць на сябе, сваю творчасць староннім вокам — чытача, рэцэнзента, крытыка. Убачыць і нават «падказаць» пэўныя зачэпкі. Напрыклад, паўторнасць некаторых матываў, думак, а найболей той заўсёднай, брылёўскай любасці да змястоўна-вялікага свету дзяцінства. Дарэчы, дзіцячыя вобразы, лёсы, назіранні за адкрыццём навакольнага свету малымі — усё гэта дужа ўласціва прозе Я. Брыля. Толькі погляд на тое ж маленства іншы. Пагэтаму і любасць іншая, і клопат гарчэйшы, і думка глыбейшая.

Чытанне Я. Брыля — гэта не толькі спасціжэнне свету, вострых праблем сучаснасці, захапленне брылёўскім лірызмам, сакавітасцю слова. Гэта яшчэ і такія патрэбныя сёння ўрокі сапраўднай інтэлігентнасці і далікатнасці. Чаго-чаго, а гэтых якасцей нам так адчувальна не хапае. І чалавеку, і грамадству. У Брыля паняцце інтэлігентнасці — з'ява шырокая: культура творчасці, культура людскіх узаемадачыненняў, культура інтэлекту, культура ўласнага самавыхавання.

Брылёўская інтэлігентнасць, яго чалавечая абаяльнасць праяўляюцца ва ўсім. Хоць бы ў тым, як мастак бачыць, разумее народ і расказвае пра яго жыццё, духоўную і маральную культуру, яго вострую дакладную ацэнку той ці іншай з'явы альбо сітуацыі. Вось, напрыклад, «здаравенны, чарнявы, упасвелы» дзядзька так адазваўся пра стан калгаснай дарогі, што і пісьменніку якому не грэх павучыцца такой выразнасці і вобразнасці: «Пакуль да праўлення калгаса ад нашай брыгады даедзеш — можна касу зубамі накляпаць». Зноў, як і ў «Ніжніх Байдунах», позірк мастака скіроўваецца на такую зайздросную якасць народа, як здаровы, гаючы смех. Няхай салёны, няхай грубаваты, але такі шчыры, такі праўдзівы. І гэтую якасць мастак вылучае асабліва. Як выключную, істотную ў народным аблічны, характары.

Сам мастак смяецца гэтак жа трапна, па-народнаму. І смех гэты не шакіруе, не здаецца грубым ці абразлівым. Нагадаем нечаканае супастаўленне «найпразаічнейшага «отхожего места» (Л. Толстой) і сучаснага новага сельскага з раскошнай шыльдай «Товары повседневного спроса». І ў згаданым артыкуле рускага класіка, і ў мініяцюры Я. Брыля паняцці збліжаюцца: і ў адным, і ў другім выпадку — гэта сапраўды толькі знак, што гадзіць можна вакол «места», дзе і як хочаш. «Дык вось навокал новага, тыповага сельмага на ўзгорачку «повседневно» п'юць ды п'юць, ужо не чаркамі, не шклянкамі — бутэлькамі. «Золотая осень», «Лучистое», «Популярное» і іншую недарагую, такую ж паэтычную атруту.

А гэта ж сельмаг, што здалёк упрыгожвае вёску, а наша вёска — толькі часцінка нашага свету...

Што тут рабіць?

Так я пісаў яшчэ ў 1976-м, і гэта ў мяне з высакароднай цнатлівасцю вымалася з кніг, як недастаткова «лучистое» ў асвятленні нашага жыцця і залішне «популярное» ў маім абагульненні».

Заўважым, для Брыля дужа істотна і характэрна думаць «пра інтэлігентнасць падачы самага бруднага, жахлівага. Без грубага натуралізму». І не толькі думаць. Але і ў сваёй мастакоўскай практыцы кіравацца менавіта гэтым. З кнігі «На сцежцы — дзеці» відаць, як балюча ўражвае пісьменніка ўсялякая адсутнасць далікатнасці, унутранай культуры ў тых, хто па абавязку сваёй дзейнасці павінен несці гэтую культуру. Там жа, дзе даводзіцца сутыкацца з душэўнай глухатой і эстэтычнай слепатой калялітаратурных «жыхароў», Я. Брыль карэктна-суровы і бязлітасна-іранічны. «Свежаабляўрэачаны паэт выступае на ўрачыстым сходзе з вершамі. Адзін на ўсю вялізную сцэну. Крычыць, размахвае. Аэробіка ў мікрафон».

Зусім іншы Брыль, калі размова ідзе пра сапраўднае ў жыцці, у літаратуры, у канкрэтным чалавеку. Асаблівай гаворкі і ўвагі заслугоўвае, прынамсі, размова пісьменніка пра «хлеб надзённы», раздзел, у якім высвечваюцца праблемы сучаснага літаратурнага жыцця, літаратурнай творчасці. Каб сказаць пра не заўсёды апраўданую тэндэнцыю беларускай прозы да шматстаронкавай важкасці, да слоўнай гігантаманіі, Брылю спатрэбілася ўсяго 6 радкоў, — канкрэтна-зрокавае, аб'ёмнае параўнанне буйнагабарытнага рамана з вялізнай пустой фанернай тарай ад запалкаў. Дарэчы, знішчальная крытыка не толькі ў адрас самой «скараспела надзьмутай эпікі», але і той, з важнай мінай крытыкі, якая ўсяго толькі маніпулюе слоўнымі паняццямі, вызначае не сапраўднае, што на доўгі час, не тлумачыць вартасную сутнасць мастацкай з'явы, а скіроўвае ўвагу сваю (і чытача таксама) на ўяўную значнасць бліжэйшага да «місы» дзесятка майстроў. Выдаткуе ім пісьменнік поўнай і шчодрай мерай. Хоць бы вось так: «Усё лета ў вёсцы прасядзеў, на дачы. Прыехаў, пытаюся, як тут ды што. Цуду не адбылося, ніхто нічога геніяльнага не напісаў!

І рагоча сыценька.

А тут жа і падтэкст: можна і надалей быць упэўненым, што лепшага за цябе, дзякуй богу, няма!» Якая канцэнтрацыя пачуццяў у гэтым сапраўды мініяцюрным (па аб'ёме) запісе!

Аднолькава трапна, дакладна, вобразна сказана і пра хвалюючую радасць жыцця, адчуванне красы навакольнага свету, прыроды, і пра маральную атлусцеласць, духоўную недалёкасць і спустошанасць тых, хто ўмее так сыта пасвіцца каля літаратуры, мастацтва, каля пасады. Мабыць, цяжка больш дакладна сказаць пра тую ж самую пасадную вяршыню. У Я. Брыля — гэта проста «вільчык кар'еры». Усё тут сышлося. І вышыня, і няпэўнасць, няўстойлівасць. На вільчыку ўтрымацца няпроста. А калі і ляцець давядзецца, то на злом галавы, уніз...

А якой жа скрухай і болем, гаркотай дыхае кожнае слова пра сапраўды таленавітых, якіх абдзялілі ды і зараз яшчэ абдзяляюць і ўвагай, і звычайнай зычлівасцю: «...многа, мноства добрых, сумленных, патрэбных працуе, церпіць, як вінаватае ў нечым, атрымліваючы што-небудзь удагон... Няўжо такое было і будзе заўсёды?» Якраз кніга Я. Брыля і вызначаецца сваім глыбінным гуманістычным зместам. У ёй — і памяць удзячная, і захапленне шчырае, і паклон зямны, і маштаб думкі ўсялюдскі... Імёны, прозвішчы... Творы... Найбольш часта згадваецца імя У. Караткевіча. Нечакана ці па нейкай асацыяцыі, а то і проста ад патрэбы выказацца, калі больш трываць, насіць толькі ў сабе тую балючую і радасна-вялікую памяць немагчыма. І тады ўспамінаецца многае. Пражытае і перажытае разам, у паездках па Беларусі, у бяссонных роздумах і спрэчках. Гэта і ў асобных мініяцюрах, і ў цудоўным эсэ «Наш Караткевіч».

Уражвае тут Я. Брыль не толькі здольнасцю вызначыць сапраўднае, не толькі дасканаласцю мастацкага густу, але і надзвычайнай дасведчанасцю, магутным інтэлектам. Чытаць такія кнігі — гэта не толькі захапляцца магчымасцямі мастацкага слова. Гэта яшчэ і атрымліваць вялікую асалоду мець сваім суразмоўнікам чалавека, дыяпазон чытацкіх інтарэсаў якога незвычайна шырокі: ад «талковай кнігі для дзяцей» да сусветна вядомай класікі: назаўсёды Талстой, Чэхаў, Дастаеўскі, дасканала вядомая мастаку польская літаратура з усёй складанасцю яе ўзаемадачыненняў з беларускай культурай, беларускай гісторыяй. Тут і роздум над пакутным лёсам створаных мастакамі, вучонымі кніг. Прыклад таму — «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага. «І гэтая кніжка, месца якое ў музеі або ў бібліятэцы, трапіла да мяне з гарышча яшчэ аднаго чытальніка ды будзькі роднай думкі, вясковага настаўніка, які нядаўна памёр». Не толькі пагаджаешся з думкай, што «так трэба пісаць гісторыю роднай літаратуры», як М. Гарэцкі, але праклінаеш нашу неабачлівасць, нашу абыякавасць ці проста недасведчанасць, калі да гэтай пары не можам распарадзіцца як трэба такой спадчынай.

Выразна адчуваецца і думка аб неабходнасці для чалавека, калі ён хоча звацца інтэлігентам, пастаяннага імкнення да самаадукацыі. Праўдзіва і слушна гучыць выказванне пісьменніка адносна нашай адукаванасці: «Закончыць які-небудзь філфак, журфак і лічыць, што ты ўжо адукаваны на ўсё жыццё».

У кнізе «На сцежцы — дзеці» мастак умее знайсці такое выразнае, трапнае слова, што з'ява паўстае ярка, акрэслена, з абавязковым выяўленнем аўтарскай пазіцыі — маральнай, эстэтычнай, грамадзянскай. Вось шчыльна пастаўленыя, нібы тыя пацеркі, словы «беласнежна, белабярозава, сонечна», якія ствараюць настрой некранутай яшчэ чысціні прыгажосці. Глыбока западае ў душу вобраз маленькага дрэўца-парастка «з далонькамі зялёнай радасці, новых лістоў», якіх кранаецца маленькая далонька хлапчаняці з пустышкай. Але калі маеш справу са словам такога мастака, як Я. Брыль, то кідаецца ў вочы і самая нязначная недакладнасць. У прыватнасці, давялося спатыкнуцца на сённяшнім распаўсюджана-лаянкавым — «задрыпаны». І гэта сказана пра чалавека, лёс якога наводзіць мастака на думку пра сучасную праблему азвярэласці ў яе «глабальнасці ды касмічнасці». Страчвае ад гэтай «задрыпанасці» вобраз. Чамусьці ніяк не ўспрымалася на слых і «сухарнае пахрупванне прымёрзлай зямлі на шырокай аўтамабільнай каляіне».

І яшчэ. Многае ў кнізе Брыля афарбавана элегічна-шчымлівым роздумам. І ўсё ж ад кнігі «На сцежцы — дзеці» ідзе такая радасць, такая свежасць адчування, што не хочаш ні розумам, ні душой успрымаць гэтыя пранізліва-балючыя адзнакі незваротнасці часу, імклівасці чалавечага жыцця.

**Тамара НУЖДЗІНА.**
г. Мазыр.

---

**На адным з пленумаў СП БССР у выступленні К. Шэрмана прагучала крытыка ў адрас Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў («ЛіМ» 23.XII.1988 г.). Прамоўца гаварыў аб тым, што, рыхтуючы кадры, гэтая навучальная ўстанова не ўлічвае нацыянальную спецыфіку рэспублікі. Крытычныя закіды з'яўляліся ў прэсе — не толькі рэспубліканскай, але і агульнасаюзнай — і раней (з 1983 года), аднак адміністрацыя інстытута адмоўчвалася. Сёлета ж, у лютым, прарэктар па навуковай частцы інстытута замежных моў Галіна Пятроўна Багуслаўская і сакратар партыйнай арганізацыі Віктар Фёдаравіч Балакіраў запрасілі на гутарку паэта і перакладчыка К. Шэрмана, старшыню камісіі па выкладанні беларускай мовы і літаратуры ў школе пры СП БССР Б. Сачанку і карэспандэнта «ЛіМа».**

**Пазней у рэдакцыю прыйшоў ліст, у якім адміністрацыя ІЗМ інфармавала аб становішчы беларускай мовы ў гэтай ВНУ. «Курс беларускай мовы быў уведзены ў вучэбныя планы ўсіх факультэтаў па рашэнні савета інстытута яшчэ ў 1970 годзе. Па новых вучэбных планах на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры адводзіцца 120 гадзін»,— паведамлялася ў лісце. Аднак, паводле праверкі Міністэрства народнай адукацыі, аказалася, што з іх толькі 36 аўдыторных. Галіна Пятроўна растлумачыла, што па плане 40—50% гадзін па ўсіх прадметах адводзіцца на самастойную працу. Але выходзіць, што ў дачыненні да роднай мовы гэты паказчык узрос да 70%.**

**Далей у лісце гаварылася, што з 1988/89 навучальнага года ўведзены спецкурсы па гісторыі сусветнай культуры і мастацтва, дзе ёсць раздзелы, прысвечаныя Беларусі, што студэнты пішуць рэфераты, курсавыя і дыпломныя работы па пытаннях развіцця беларускай літаратуры, беларускай мовы, робяць пераклады з замежных моў на беларускую; што для студэнтаў перакладчыцкага факультэта ўведзены спецкурс «Прабпемы мастацкага перакладу»; што ў інстытуце створаны творчыя калектывы, якія працуюць над складаннем іншамоўна-руска-беларускіх (нямецка-руска-беларускі слоўнік ужо выйшаў з друку) і іншых беларуска - замежнамоўных слоўнікаў. Згадваліся таксама разнастайныя формы прапаганды беларускай культуры, у прыватнасці, вечары, сустрэчы з пісьменнікамі, чытацкія канферэнцыі, экскурсіі па гістарычных мясцінах Беларусі і інш. У заключэнне паведамлялася, што на кафедрах абмяркоўваюцца прапановы па ўмацаванні двухмоўя ў навучальна-выхаваўчым працэсе. Мерапрыемствы па выкананні рашэння калегіі Міністэрства народнай адукацыі па пытаннях двухмоўя будуць абмяркоўвацца і зацвяр-**

---

Чытаючы часопісы

## Адрас другі, не апошні...

**Летась часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» адзін са сваіх нумароў прысвяціў педагогам Слонімшчыны, расказаўшы, як шмат робіцца ў горадзе і раёне па прапагандзе беларускай мовы і літаратуры, далучэнню школьнікаў да чароўнага матчынага слова. Называліся канкрэтныя адрасы ініцыятывы, расказвалася пра лепшых настаўнікаў, прыводзіліся метадычныя распрацоўкі іх лепшых урокаў.**

**Пасля знаёмства з нумарам падумалася: а ёсць жа ў рэспубліцы і іншыя раёны, дзе, як на Слонімшчыне, гэтаксама ўважна**

# Гэта нам не — выкладалі?

**джацца на бліжэйшым пасяджэнні савета інстытута.**

**На такой аптымістычнай ноце заканчваўся ліст. Аднак, думаецца, ёсць падставы, каб трывожыцца за стан роднай мовы ў гэтай ВНУ (як і ў некаторых іншых).**

**27 верасня 1988 года Бюро ЦК КПБ прыняло пастанову «Асноўныя мерапрыемствы па далейшым развіцці народнай асветы ў Беларускай ССР», якая была адобрана X пленумам ЦК КПБ і якая непасрэдна тычыцца стану выкладання беларускай мовы ў сярэдніх, спецыяльных і вышэйшых навучальных установах рэспублікі. Ды, на жаль, з 15 сталічных ВНУ пасля ўсіх пастаноў на сённяшні дзень павярнуліся тварам да роднай мовы толькі 3—4. Гэта, у прыватнасці, тэатральна-мастацкі, тэхналагічны і педагагічны інстытуты.**

**Віна ў гэтым, відаць, не толькі Міністэрства народнай адукацыі БССР, іншых вышэйшых інстанцый. Заўважаецца і нежаданне «знізу» — у рэктаратах і дэканатах — далучыцца да перабудовы ў галіне моўнай палітыкі. Нават без спецыяльных дазволаў, інструкцый, без змены вучэбных праграм і планаў можна было б чытаць курсы грамадскіх дысцыплін па роднай мове, па-беларуску афармляць калідоры і аўдыторыі ВНУ. На жаль, і гэтага няма.**

**Мы вырашылі звярнуцца да выпускнікоў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, якія працуюць на ніве народнай асветы і культуры з наступным пытаннем: якія шляхі ўдасканалення сістэмы навучання ў інстытуце бачыце вы, каб тут сапраўды рыхтаваліся высокапрафесійныя кадры з арыентацыяй на патрэбы рэспублікі? Вось іх адказы.**

**Якуб ЛАПАТКА,**
**настаўнік іспанскай мовы СШ № 5 г. Наваполацка:**

— Спачатку пра сябе. З 1988 года я вяду ўсе тлумачэнні і пераклады ў чацвёртым класе толькі на беларускай мове. І трэба сказаць, што ніякага «непераадольнага моўнага бар'ера», які так палохае праціўнікаў беларусізацыі, не ўзнікае. На ўроках у гэтым класе было шмат наведвальнікаў — і бацькі, і адміністрацыя, а выснова гучала так: «А мы и не заметили, что вы говорили по-белорусски». Не заўважаюць гэтага і дзеці, г. зн. маю беларускую мову яны ўспрымаюць як нешта звычайнае і натуральнае. Апрача таго, мы з калегам рыхтуемся да працы ў тых, пакуль што двух беларускіх класах, якія створаны ў нашай школе: склалі іспанска-беларускі слоўнічак (каля трох тысяч слоў), даведнік няправільных дзеясловаў і г. д. Я сказаў аб тым не дзеля пахвальбы, а дзеля таго, каб папярэдзіць такое моднае зараз пытанне: «А ты сам што зрабіў для беларускай мовы, апрача балбатні?» Але, на жаль, заслугі інстытута замежных моў у тым няма ніякай, бо я пачынаў вучыцца на перакладчыцкім аддзяленні (тады яшчэ аддзяленні, а не факультэце), дзе беларускую мову не вывучалі зусім.

На мой погляд, у інстытуце замежных моў становішча можна выправіць такім чынам:

1. Афіцыйная статыстыка дае пэўны працэнт беларускіх школ у рэспубліцы. Значыць, прадугледзець адпаведны працэнт беларускамоўных выпускнікоў пры прыёме ў інстытут.

2. Забяспечыць выкладанне агульнаадукацыйных прадметаў (гісторыя КПСС, навуковы атэізм і г. д.) на беларускай мове. Гэта цалкам рэальна, бо пераважную большасць выкладчыкаў складаюць людзі, якія ведаюць беларускую мову. Спасылкі на моўны бар'ер у інстытуце, дзе сабраныя самыя здольныя да моў людзі, гучаць проста недарэчна.

3. За пяць гадоў перавесці выкладанне замежных моў на беларускую аснову, бо калі за гэты час можна падрыхтаваць знаўцаў іспанскай, нямецкай, англійскай і французскай моў, то беларускую мову можна вывучыць і за болей кароткі тэрмін. Ажыццяўляць такі пераход павінны выкладчыкі інстытута, з дапамогай студэнтаў, ствараючы распрацоўкі ўрокаў, тэм, складаючы тэматычныя і агульналексічныя слоўнікі. Для студэнтаў гэта была б добрая і карысная навуковая практыка.

4. Даплачваць выкладчыкам, якія будуць чытаць свае прадметы па-беларуску, скажам, 20—25 працэнтаў ад стаўкі, таму што без матэрыяльнага стымула тут не абыдзешся.

5. І самае галоўнае: надаць беларускай мове статус дзяржаўнай, інакш усе пастановы і рашэнні, якія б мудрыя яны ні былі, будуць залежыць ад энтузіязму выкладчыкаў і сімпатый ці антыпатый кіраўнікоў.

**Алесь АСТАШОНАК,**
**рэдактар-перакладчык часопіса «Крыніца» («Родник»):**

— Скончыў у 1976 г. французскае аддзяленне перакладчыцкага факультэта (другая мова — англійская). Выкладчыца роднай мовы вельмі добрая была, але што яна магла зрабіць, па руках і нагах звязаная праграмаю і агульным стаўленнем да свайго прадмета?

Не ў інстытуце нараджалася бяда. Але варта сказаць пра дух, што панаваў у ім. Пад час вучобы ў інстытуце дайшла да скону ў нашых душах не толькі беларускасць, але нават і славянскасць. Савецкая літаратура выкладалася фармальна. Чыталі мы спрэс заходнюю прозу. З астатняга памятаю: хадзілі па руках «Один день из жизни Ивана Денисовича» А. Салжаніцына, «Рэквіем» Г. Ахматавай, англійскія і французскія тэксты «Доктара Жывага» Б. Пастарнака і «Лаліты» У. Набокава. Неяк убачыў у сябра «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіча і «новомировское» выданне «Мёртвым не баліць» В. Быкава. Нас выхоўвалі іншым чынам — найпільнейшым наглядам за даўжынёю валасоў і шырынёю штаноў, за самым дробязным праяўленнем «вальнадумства». Мяне дагэтуль не пакідае ўражанне, што я скончыў нейкі закансерваваны пансіянат, пасля якога мы ўсе мусілі стаць як мінімум перакладчыкамі ў консульствах, пасольствах, ААН і ЮНЕСКА — гэтак рупіліся пра нашую добранадзейнасць і бездакорны знешні выгляд пад «клерка прыстойнай установы». Праўда, замежныя мовы выкладалі вельмі добра.

З усіх магчымых курсаў перакладу выкладалі сур'ёзна толькі адзін — грамадска-палітычны. Курс тэхнічнага быў сфармалізаваны дашчэнту. Пра пераклад мастацкі — ані слова. Мы вывучалі гісторыю, геаграфію, літаратуру замежных краін, а што мы маглі расказаць там, за мяжою, да якой нас рыхтавалі, пра сваю Беларусь?

Шляхі ўдасканалення? Справу трэба пачынаць з кропкі адліку са знакам «мінус». Паступова інстытут павінен стаць беларускім — і па назве, і па сутнасці. А то ж ён прыкладае магутныя намаганні да забойства беларускае школы: выпускнікі едуць у вёску, а хто з іх выкладае па-беларуску?

Трэба быць больш адказнымі перад сваімі выпускнікамі і сваім народам.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**старшы выкладчык кафедры замежных моў Наваполацкага політэхнічнага інстытута:**

— Я скончыў інстытут у 1980 годзе, а потым яшчэ тры гады (з 1984 па 1987) вучыўся ў аспірантуры. Калі я быў студэнтам, родную мову на нашым факультэце нямецкай мовы не выкладалі. Быў толькі кароткі курс (30 гадзін плюс залік) беларускай літаратуры на другім годзе навучання. На працягу апошніх трох-пяці год у інстытуце ішло паслядоўнае скарачэнне гадзін на выкладанне замежных моў, бо скарачалася агульная колькасць абавязковых аўдыторных заняткаў у тыдзень (згодна з рэформаю сярэдняй і вышэйшай школы). Таму, відаць, на сённяшні дзень тыя 120 гадзін беларускай мовы ў інстытуце — не так ужо і мала.

Сказаць па шчырасці, з кім бы я ні размаўляў з былых выпускнікоў-беларусаў нашага інстытута, практычна ўсе могуць гаварыць па-беларуску на даволі прыстойным узроўні. Тут, напэўна, няма таго псіхалагічнага бар'ера, які існуе ў многіх іншых людзей, бо чалавек, які ведае як мінімум дзве замежныя мовы, усё-ткі лічыць трохі ганебным не ўмець выказвацца па-беларуску. Іншая справа, што служыць у гэтым прыкладам для іншых могуць толькі адзінкі.

Наўрад ці рэальна павялічыць колькасць гэтых гадзін, і не гэта, на маю думку, галоўнае. Трэба, на мой погляд, пашырыць прысутнасць беларускай мовы ў інстытуце ў іншых аспектах. Гэта і вядзенне хоць бы часткі дакументацыі па-беларуску, і беларускі насценны друк, і наданне «беларускага ўхілу» працы факультэта грамадскіх прафесій (здаецца, тут ствараецца ці нават ужо створаны беларускі фальклорны ансамбль), а таксама студэнцкага клуба. Самае галоўнае ж, на мой погляд,— гэта чытанне некаторых курсаў грамадскіх дысцыплін і прадметаў псіхолага-педагагічнага цыкла па-беларуску. Гэтае пытанне можна вырашыць у самыя бліжэйшыя гады. Я ўпэўнены, напрыклад, што хоць сёння могуць пачаць выкладаць па-беларуску марксісцка-ленінскую філасофію дацэнт І. П. Шпадарук, старшы выкладчык В. М. Кручкоў, знойдуцца тут адпаведныя кадры і па іншых прадметах, пра якія я казаў. Але зацікаўленасць у вырашэнні гэтага пытання павінна быць рэальна праяўлена на ўзроўні рэспубліканскага кіраўніцтва.

**Уладзімір КОЛАС,**
**рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм»:**

— У інстытуце замежных моў я вучыўся з 1968 па 1973 год. Памятаю, што пры заканчэнні інстытута паехаць у любую афрыканскую вёску лічылася куды больш прэстыжным, чым атрымаць размеркаванне ў вёску ці нават горад Беларусі. У гэтым няма нічога дзіўнага, калі ўлічваць, што плацяць спецыялісту ў Афрыцы ледзь не ў дзесяць разоў больш, чым настаўніку ці перакладчыку на Беларусі.

Кажуць, што сёння справу ў інстытуце замежных моў вырашаюць «адміністрацыйным» шляхам: каб забяспечыць рэспубліку «нацыянальнымі кадрамі»,— не размяркоўваюць выпускнікоў за мяжу. Але як будзе паводзіць сябе такі «нацыянальны кадр», калі, часцей за ўсё насуперак сваёй волі, апынецца недзе ў беларускай вёсцы? Як паўплывае на маладыя душы сваіх гадаванцаў? Зразумела, усё будзе залежаць у першую чаргу ад асобы маладога настаўніка. Але вучоба ў інстытуце развіццю нацыянальнай самасвядомасці, на мой погляд, не спрыяе. Беларускую мову і літаратуру за тыя гадзіны, што адводзяцца на іх па праграме, можна вывучыць толькі павярхоўна, фармальна. Да таго ж, ніводнай гадзіны не выдаткоўваецца на вывучэнне гісторыі Беларусі, яе культуры.

Зразумела, нельга вінаваціць кіраўніцтва інстытута за агульнае становішча, у якім апынулася наша мова, наша культура. Але ў інстытуце, на маю думку, вырашыць праблему можна проста: аддаць беларускай мове тую колькасць гадзін, якую выдаткуюць тут на рускую мову, увесці курс геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі — па прыкладзе таго, як выкладаюць у інстытуце геаграфію, гісторыю і культуру замежнай краіны, мову якой вывучаюць студэнты. Гэта было б лагічна і справядліва.

Прымаючы такія рашэнні, неабходна ўлічваць агульную моўную сітуацыю. І таму «моўныя рэформы» ў інстытуце ёсць сэнс праводзіць адначасова з комплексам мер па выпраўленні агульнага становішча з роднай мовай на Беларусі, першай з якіх павінна стаць прыняцце Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

**Думаецца, што адказы, якія мы змясцілі, будуць цікавыя не толькі адміністрацыі і выкладчыкам інстытута, але і ўсім чытачам «ЛіМа».**

**Галіна ТЫЧКА.**

---

ставяцца да ўсяго, што тычыцца зберажэння нацыянальных традыцый, прапаганды іх. Сапраўды — ёсць. І ў гэтым пераконвае нядаўні, красавіцкі нумар «Беларускай мовы і літаратуры ў школе» за сёлетні год. Амаль увесь ён прысвечаны Піншчыне, дзе асабліва творча працуе метадычны кабінет, а набыткі многіх настаўнікаў роднай мовы і літаратуры варты не толькі ўхвалы, але і пераймання. Узнагароджанне раёна пераходным Чырвоным сцягам Міністэрства народнай адукацыі БССР і галіновага прафсаюза — вынік сапраўды творчай працы людзей, аб'яднаных адзінствам задум і клопатаў, людзей, што дбаюць — гэта зусім не гучныя словы — аб будучым нацыі.

Сярод іх Аляксандр Пятровіч Выбяранец, выкладчык роднай мовы і літаратуры з Лемяшэвіцкай сярэдняй школы і адначасова лектар Брэсцкага інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Пра яго хораша расказвае ў нарысе «Яго лёс, яго прызванне» І. Паўлава. Аднак прывабны воблік А. Выбяранца, як педагога, што мысліць творча, дзейнічае па-дзяржаўнаму, яшчэ больш раскрываецца, калі знаёмішся з яго распрацоўкамі «Урок-прэс-канферэнцыя па творчасці П. Панчанкі». Як умела падыходзіць настаўнік да вывучэння творчасці аднаго з самых цікавых сучасных савецкіх паэтаў, як мэтанакіравана і настойліва прывівае ў дзяцей любоў да яе!

А ўзяць вопыт Івана Іосіфавіча Калошы. Ён працуе ў Пінкавіцкай сярэдняй школе імя Якуба Коласа. Як відаць з яго выступлення ў часопісе «Захаваць у памяці народа», педагог не толькі дбайна ставіцца да прапаганды творчасці народнага песняра, але і да іншых значных набыткаў беларускай літаратуры.

Чытач мае магчымасць пазнаёміцца таксама з вопытам Марфы Аляксандраўны Аляхновіч, Ганны Пятроўны Пасевіч, Ірыны Ільінічны Рэкс і іншых настаўнікаў.

І, вядома ж, добра, што ў гэтым нумары, як і ў папярэдніх, змястоўным атрымаўся раздзел «Культура Беларусі». Матэрыялы яго таксама прывязаны да Піншчыны. Гэта і артыкул М. Раманюка «Народныя касцюмы Піншчыны», і своеасаблівы экскурс у мінулае беларускага дойлідства, зроблены А. Кулагіным — «Пінск — архітэктурны запаведнік».

Пра культурныя традыцыі на Піншчыне расказваецца і ў артыкуле А. Кірыковіча «А. Блок і Палессе». Прыводзяцца цікавыя факты, назіранні, абагульненні. Праўда тут ўзнікае пытанне, чаму аўтар усё, што тычыцца ўвекавечання памяці Аляксандра Блока на Піншчыне звязвае з імем маскоўскага журналіста Г. Блюміна? Да Г. Блюміна шмат зрабіў ураджэнец Лунінецкага раёна М. Калінковіч. Не так даўно ён прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў СССР. А яшчэ ў 1985 годзе М. Калінковіч выпусціў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» кнігу «Палескія дні Аляксандра Блока», а яшчэ раней, у канцы 70-х гадоў, з'явіліся яго першыя публікацыі, у тым ліку ў часопісе «Нёман», штотыднёвіку «Литературная Россия».

... Выпуск такіх нумароў трэба толькі вітаць. Справа гэта і своечасовая і неабходная. Дзякуючы намаганням партыйных органаў, грамадскасці, Міністэрства народнай адукацыі на чале з М. І. Дземчуком сёння робіцца нямала, каб да беларускай мовы далучалася як мага большая колькасць людзей. Але ўсё пачынаецца са школы. І першы яе вопыт у гэтым кірунку варты самай актыўнай і мэтанакіраванай падтрымкі. І таму спадзяёмся, што такі тэматычны нумар «Беларускай мовы і літаратуры...» не апошні.

НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.

---

## БУНТАРНЫ ВОБЛІК КАЛІНОЎСКАГА

У пачатку лістапада мінулага года ўвагу шматлікіх наведвальнікаў выставачнай залы Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска прыцягнула экспазіцыя твораў жывапісу, графікі, экслібрысаў, скульптуры і медальернага мастацтва з калекцыі А. Белага, прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 125-годдзю з дня яго гераічнай гібелі.

Цяпер каталог «Катусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 года на Беларусі» выйшаў паўторным выданнем, прытым у пашыраным выглядзе. Змешчаны рэпрадукцыі звыш 120 твораў. Ва ўступным артыкуле А. Белы падрабязна расказвае пра найбольш значныя творы беларускіх мастакоў, прысвечаныя К. Каліноўскаму і паўстанню, якім ён кіраваў.

## СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ

У выдавецтве «Беларусь» апошнім часам выйшаў шэраг зборнікаў дакументаў і матэрыялаў, падрыхтаваных Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ, якія расказваюць аб барацьбе беларускага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Нядаўна выйшла чарговая кніга з гэтай серыі — «Камсамол Беларусі ў Вялікай Айчыннай вайне». У зборнік уключаны дакументы і матэрыялы, што адлюстроўваюць шматгранную дзейнасць камсамольскай арганізацыі Беларусі ў час вайны. Яны ўяўляюць цікавасць не толькі для гісторыкаў, але і для шырокай грамадскасці, асабліва для маладога пакалення. У шырокі ўжытак уводзяцца звесткі, дагэтуль схаваныя ў партыйных і дзяржаўных архівах і нідзе не апублікаваныя. Увайшлі ў кнігу і матэрыялы з ваеннага і пасляваеннага друку, якія сёння сталі ўжо бібліяграфічнай рэдкасцю.

Ёсць у зборніку імянны і геаграфічны паказальнікі, па меры неабходнасці прыведзены каментарыі да некаторых публікацый.

С. ВІРЗОЎСКІ.

## Пераклады

Яраслаў Сейферт (1901—1986) належыць да выдатнай плеяды паэтаў, якія прыйшлі ў чэшскую літаратуру ў пачатку 20-х гадоў і заваявалі ёй міжнароднае прызнанне. Ён пачынаў свой шлях разам з такімі самабытнымі талентамі, як І. Вольнер, В. Незвал, К. Бібл. Але яму было наканавана надоўга перажыць сваіх равеснікаў, каб пакінуць жыццё на парозе свайго васьмідзесяціпяцігоддзя патрыярхам чэшскай паэзіі і лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. У яго багатай творчай спадчыне — кнігі лірыкі «Горад у слязах», «Адно каханне», «Салавей спявае дрэнна», «Паштовы голуб», «Рукі Венеры», «Каменны мост», «Камета Галея», «Мама», «Быць паэтам». Пяру Я. Сейферта належаць кнігі мемуараў «Зоркі над райскім садам» і «Усё хараство свету».

**Яраслаў СЕЙФЕРТ**

### Ленін

На трэснутых і скрышаных апорах
панiклі старадаўнія палацы,
мінулая вычэрпвалася слава.

Такою мы пабачылі Расію,
калі, як свечкі, купалы Крамля
гарэлі над труной правадыра.

Масква ўздымала моўчкі хвалі смутку
на крылах вогненных сцягоў,
гулі
ад мускулістых рук рабочых
вулкі
і дрогка скаланаліся муры.

Да новых да нябачаных сяліб
праз чорныя разваліны Пампей
ішло жыццё —
у гронках вінаграда.

А смерць блукала ў пошуках спакою
сярод руін, дзе след кашэчы
лёг ланцужком на мармуровы пыл
антычных статуй.

●

У снезе — парк,
дзе так яшчэ нядаўна,
нібыта дрэва векавое,
Ленін,
убачыўшы свой вечаровы цень,
на лавачцы
адпачываў стамлёна.
Яму яшчэ пакінула жыццё
нямнога дзён празрыстасці асенняй,
а, можа, і зімовага марозу.
І ён зірнуў туды, дзе сонца зззяе,
у вышыні гранёнага Манблана
убачыў і Еўропу, і ўвесь свет,
што скаланаўся ў барыкадных бітвах.
Падстрэленая птушка ў знемажэнні
на вербны прут упала нечакана;
у банках змеі зліткаў залатых
трымцелі за жалезнымі прутамі
Ля каланады — золата ахова:
адкормленыя псы гуляюць борздка,
па лічбах на паперы, па слупках
струменіць кроў людзей...
Ён плошчы ўбачыў і натоўпаў рух,
і ў цемры ночы, вышытай агнямі,
якія мігацелі так прывабна,
пачуў ён песню, што кранула сэрца.

Быў гэта не лірычны спеў, які
вагае мілагучна аксаміт
лагоднай мяккай цемры над балконам, —
тысячагорлым рэхам гэты спеў
раскатна калыхаўся і грымеў
ля сцен палацаў і ў вушах цароў,
каму ўжо саван ткалі кулямёты.

І раптам растварыўся краявід,
замоўк і знік магутны спеўны голас,
і ўбачылася родная Масква
уся ў снягах, што праз гады ляцяць.

Пачуўся гучны, горды і дакладны
крок каравула ля сцяны крамлёўскай,
які Еўропа і планета ўся,
стаіўшы подых, слухалі задумна.

І ён, нібы прачнуўшыся, узняў
стамлёны зрок — убачыў ліст сухі,
сарваны з дрэва завірухай, ён
ляцеў, кружыў і трапятаў, пакуль
не ўпаў на дол...

●

Дык расчыніце вокны!
Ад болю аж заплюшчваюцца вочы
тых, што сцягі каля труны нясуць.

Хоць Леніна няма, ды ён плыве
высока на руках усіх народаў—
не ў сілах перад ім зямля раскрыцца.
І ціха, ціха
ступаюць несціханыя натоўпы,
і сэрцы стукаюць
у кіпцюрах пакут.

Жалоба над усім пануе светам —
дык вось чаму так дрэнна, друг паэт,
пяецца сёння салаўям.

### Мёртвыя ў Лідзіцах

Ластаўкі лунаюць ад трывогі,
прыляцеўшы, дахаў не знайшлі.
Як разбіты скіпетр, ля дарогі
топаль нахіліўся да зямлі...
Вас на доле прыціскае камень.
Шлях уткнуўся ў бездань — прама ў дно.
Ходзіце з прасцёртымі рукамі—
дзе цяпер нічога не відно.
Толькі звон птушыны і пустэча:
жаўранкі бліжэй, чым мы, да вас.
І, магчыма, калі птах шчабеча,
вы таксама чуеце якраз,
як імёны вашыя напеўна
паўтарае поле спакваля,
як на вашых вуснах, сцятых гнеўна,
не перастае крычаць зямля;
як пяюць і страх ваш, і рыданне,
як пяюць і той куток і час,
дзе быў розум на апошняй грані,
дзе ад дзетак адлучалі вас;
як пяюць на нечуваным ветры
зрэнкі тых, хто ўсё яшчэ жывы;
як пяюць, хапаючы паветра,
пальцы рук самотнай удавы;
як пяе раптоўны міг спакою
над апошнім выдыхам глухім;
як кранаюць мужнасцю людскою
тыя, на чыіх плячах стаім.
Жаўранак пяе. Замоўклі сцюжы
Але май, заўсёды малады,
знае, як стаптаныя тады
зноў цвітуць задумлівыя ружы.

### Дзеці прадмесця

У прыёмным пакоі,
ад свету ўсяго адгароджаным,
санітаркі,
як балерыны,
танцуюць,
у нямоглых надзеі мацуюць
балетам,
хваробай народжаным...
Мы, прадмесця галоднага дзеці,
туліліся суполкай брацкаю,
у нашых грудзях дзесьці
гняздзілася гора жабрацкае.

Вокны,
свецячы над галовамі,
пра шчасце казалі,
чужымі словамі
ззялі.

Доктар прыйшоў — акуляры чорныя,
з таямніцаю заручоныя.
І з твараў усмешкі знікалі.

(Была чарната акуляраў прытворнаю
ці знакам бяды, якой не чакалі?)

Пад зрэнкамі нашымі,
поўнымі мукі,
дрыжалі ягоныя рукі.
Ён потым нас
выслухоўваць пачаў,
стрыманы ў слоўных высновах
голас яго ціха гучаў.
Ён, нібы музыка іграў
на нас, як на скрыпках кляновых.

І ў кожным з нас
пад рукой пяшчотнай
звінеў адказ,
як спеў аб долі —
не столькі вясёлай, колькі гаротнай.

Ён да часу нямеў,
а калі зразумеў,
што нашыя скаргі лепей бы ўтойваць,
што нас усіх
трэба настройваць, —
па нашых рэбрах
ягоныя пальцы
прабеглі,
нібы ласкавыя джальцы...
І ён праспяваў,
суцішаючы боль:
соль-рэ-ля-мі,
мі-ля-рэ-соль.

«Трэба, шаноўныя, быць здаровымі
перад павевамі ветру суровымі.
Як грымне канцэрт, падобны да буры,
вам па чырвонай іграць партытуры
сімфонію рэвалюцыі!
Вам узнімацца да сонца ў гімне!
А ён непазбежна грымне».

### Паэт і іншыя рамёствы

Паэт — нібыта патэфон:
адно і тое ж круціць ён.

Рыфмоўку ты найперш знайдзі:
«сяброў» і «кроў», «цвяроза»— «доза»...
І — без капейчыны сядзі
ды пазычай — такая проза.
Кішэнь ад вершаў пухне — страх!

Чарнільная ў пакоі ціша.
Пяром гусіным на сталах,
калі няма паперы, піша.
Здараецца, сваю любоў
у словы, хоць забі, не ўсадзіць.
Ён любіць мяса галубоў,
што да яго на стол не сядуць.

Другая справа — камінар.
Бо мае ён не слоўны дар.

Ён з лесвічкай і памялом
на белы свет праз комін выйшаў
і з важнасцю пакінуў дом —
і дым над дахам неба вышыў.
У дом наведваннем сваім
нясе і ўдачу ён і одум.
Дзяўчынкі бегаюць за ім —
запэцкаць пальчык аб куродым.

Служыць сабе любую рэч
прымусіць гаспадыня можа,
калі ж не мае цягі печ,
што ёй рабіць тады, о божа!

Але і бондар—ці ж не так?—
працуе слаўна, як мастак.

Збівае дошкі вельмі проста,
кальцуе бочкі на двары,
раўняе потым іх па росту,
старанна смолячы знутры.
Пакуль паэт радок ударны
шукае ў думках нездарма,
прыкоцяць бочку з піваварні —
і ўцехі большае няма.
Той, хто ў натоўпе гаманлівым
выходзіць у вясельны круг,
сябе сагрэўшы моцным півам,
успомніць бондара, як друг.

А пекар ёсць без каўпака?
Ляціць, пыліць над ім мука.

Закваску ён размяў рукою,
крупіначку яе ўкусіў,
а потым у дзяжы з мукою
натхнёна цеста замясіў.
Застыў над цестам нерухома,
шапнуў, як прашчуры даўней...
Узыдзе цеста, як вядома,
ад мудрых слоў яшчэ пышней.
Той хлеб, што есці мы ахвочы,
да ладу пекар давядзе.
Мы ўранку ледзь расплюшчым вочы
а ён адпачываць ідзе...

І ў кузні працаваць не жарты,
кавадлы добрых песень варты.
Радок паэта, нібы сталь,
звініць — і ўвысь крыляюць словы,
ды молатам сваім каваль
распаленыя гне падковы.
У кадзь з вадою кіне іх —
шыпіць вада ды іскры роем...
Гул кавалю лагодзіць слых,
па кузні ходзіць ён героем.
І гэтай музыкі агонь
праз тоўшчу сценаў пранікае,
падкову той хвілінай конь,
нагу згінаючы, чакае...

Але вярнуцца ўсё ж пара
і да мастацтва песняра.
На нашай роднай мове ён,
што зачароўвае з маленства,
раскажа, як у віхры дзён
ад фанабэрнага шаленства
мы скарбы моўныя свае
самаахвярна ратавалі...
Хвалу жыццю паэт пяе —
айчынны спеў калыша далі.

Трывогі і надзеі звон
шчымліва гэтак слых лагодзіць.
Нашчадкам ружу кіне ён —
і сам з усмешкай адыходзіць.

Пераклаў з чэшскай
Пятрусь МАКАЛЬ.



Мартыралог Беларусі: імёны і факты

# Жылі-былі землякі...

Сталінскія рэпрэсіі не абмінулі і вёску Кукшавічы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Мне, настаўніцы-пенсіянерцы, мясцовыя жыхары шмат расказвалі пра тыя страшныя часы — пра тое, як у хатах пачыналі плакаць і развітвацца з мужчынамі, калі з'яўляўся на вуліцы «чорны воран». Людзі, апавядаючы пра вялікае гора, спадзяваліся ўбачыць надрукаванымі імёны аднавяскоўцаў-пакутнікаў. Вось ён, наш вясковы мартыралог:

**БОХАН Стэфан Сымонавіч,** 1904 года нараджэння. Браў актыўны ўдзел у калектывізацыі, у стварэнні калгаса «Звязда», быў нейкі час старшынёй гэтага калгаса. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам у вяскоўцаў. 25 жніўня 1937 года раніцай пад'ехала да яго хаты машына. Увайшлі некалькі чалавек у скуранках. З хаты нікога не выпусцілі. Учынілі вобыск, але нічога не знайшлі. Стэфана Бохана пасадзілі ў «чорны воран». З таго дня ніхто яго больш не бачыў і нічога пра яго не чуў. Засталася жонка Марыя (цяжарная) і двое дзяцей: сямігадовы Саша і чатырохгадовая Яня. Марыя не магла ўладкавацца на працу. Калі яе дзеці падраслі, у камсамол іх не прымалі. Не давалі даведак для вучобы. Стэфанаву сястру Тамару выключылі з камсамола. У сярэдзіне 50-ых гадоў дзеці звярнуліся ў адпаведныя органы, каб даведацца пра лёс бацькі. Атрымалі адказ, што Бохан Стэфан Сымонавіч рэабілітаваны пасмяротна.

**ВАУЧОК Алесь Іванавіч,** 1899 года нараджэння. Працаваў у канторы калгаса «Звязда» рахункаводам. Ён быў сумленны чалавек, добры сем'янін. Позна вечарам 21 сакавіка 1938 года да яго прыйшлі тры чалавекі, сказалі, каб збіраўся. Алесь Іванавіч паведаміў, што ў яго ключы ад канторы калгаса. Даручылі жонцы перадаць іх у сельсавет. Плакалі дзеці, галасіла жонка. Развітваючыся, Алесь Іванавіч прыгарнуў да грудзей маленькую дачку. Ягоная жонка Ганна з трыма малымі дзецьмі не бачыла з-за плачу божага свету, ездзіла колькі разоў у Мінск, вазіла ў турму перадачы, але спаткання ні разу не далі, запісак ніякіх не перадавалі. Пра яго лёс ніхто нічога не ведае. У канцы 50-ых гадоў хтосьці з рэпрэсіраваных вярнуўся і распавёў Ганне, што бачыў, як білі Алеся на допыце.

**ВАУЧОК Уладзімір Іванавіч,** 1901 года нараджэння. Працаваў у калгасе «Звязда» бухгалтарам. Добры быў гаспадар, чалавечны. Любіў чытаць, меў сваю невялічкую бібліятэку. Забралі Уладзіміра Іванавіча ў красавіку 1938 года. Прыехалі вечарам, калі ўся сям'я была за сталом. Сказалі яму збірацца, нічога не дазволілі з сабою ўзяць, упіхнулі ў «чорны воран» і паехалі. Чаму і за што, нікому не было вядома. Зазнала гора яго жонка Марыя з трыма малымі дзеткамі. Уладзіміра Ваўчка судзілі, далі 8 гадоў. Адбываў тэрмін у Магадане, Хабараўскім краі. У 50-ых гадах вярнуўся да сям'і. Здароўе было ўжо слабое, і пражыў ён на волі вельмі мала.

**ВАШКЕВІЧ Мацей Паўлавіч,** нарадзіўся ў 1901 годзе. Заатэхнік калгаса «Звязда», вучыўся на ветэрынара. Шчыры працаўнік, сціплы чалавек. Арыштавалі яго восенню 1937 года. Судзілі, адбываў тэрмін у Сібіры. Мацея Вашкевіча абвінавацілі ў тым, што ён быццам бы прадаў шпіёну свой пашпарт. Пра згублены пашпарт ён сам паведаміў у міліцыю, але яму не паверылі, хутка сфабрыкавалі справу. Вярнуўся Мацей Паўлавіч у 50-ых гадах, распавядаў, як здзекаваліся на допыце, прымушаючы прызнацца ў тым, чаго ніколі не было. Турмы ў Мінску былі перапоўненыя. Арыштаваных размяшчалі нават у падвалах. Дома ўрада. Там жа былі пакоі для допытаў. Мацея Вашкевіча моцна білі, зашчамлялі пальцы ў дзверы, заганялі іголкі пад пазногці. Вярнуўся дахаты Мацей Вашкевіч зусім хворы. Пражыў мала.

**ЛОБАЧ Сяргей Васільевіч,** 1898 года нараджэння. Працаваў у калгасе «Звязда» будаўніком, быў за брыгадзіра. Меў залатыя рукі: славіўся ў калгасе як самы лепшы стэльмах і цясляр. Вясною 1937 года Сяргей Лобач ляжаў у ложку цяжка хворы. Аднойчы да хаты пад'ехаў «чорны воран». Увайшлі трое, зазірнулі ў паперку, назвалі прозвішча і імя, загадалі збірацца. А ён не мог нават падняцца, бо была высокая тэмпература. Яго паднялі, апранулі, узялі пад рукі і павалаклі ў машыну. Пра яго лёс ніхто нічога не ведае. Апошні раз бачыў тады Сяргей Лобач сваю жонку Зосю і трох малых дзяцей.

**ТУМАС Змітра Хведаравіч,** 1897 года нараджэння. Працаваў у калгасе «Звязда» конюхам, у ліку першых уступіў у калгас. Дбайны сем'янін і гаспадар, майстар на ўсе рукі. У яго была вялікая сям'я, многа дзяцей, жылі бедна. Змітра Хведаравіча арыштавалі і абвінавацілі ў тым, што ён быццам бы сабатаваў падпіску на пазыку. Якраз у дзень падпіскі ён быў з жонкаю ў Мінску. У вёсцы Кукшавічы справу разглядаў выязны суд. Вяскоўцы сведчылі, што Тумаса сапраўды не было дома ў той дзень, але ўпаўнаважаныя сцвярджалі, што ён з'ехаў спецыяльна, каб не падпісацца. Пра тэрміны падпіскі на пазыку вяскоўцы не ведалі, бо пра гэта ніхто нікога не папярэджваў. Тумаса асудзілі на 5 гадоў і адправілі на Беламорска-Балтыйскі канал. Ён выжыў там нейкім цудам. Ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Пасля Перамогі вярнуўся дахаты.

**ТУМАС Мікалай Канстанцінавіч,** з 1905 года. Шавец. Ён быў з дзяцінства інвалід, адна нага карацейшая за другую. Вясной 1938 зайшлі ў яго хату тры чалавекі. Зрабілі вобыск. Нічога не знайшоўшы, загадалі збірацца. Плакалі ўсе ў хаце — жонка Люба і два сыны. Развітваліся з ім родныя назаўсёды.

Лёсы кукшаўцоў — частка агульнанароднай трагедыі, якую не маем права забываць.

**С. КРЫЛОВІЧ,**
**настаўніца-пенсіянерка.**

г. Дзяржынск.

*Праект*

# Адраджэнне беларускай мовы

## Праграма Камісіі беларускай мовы пры Беларускім фондзе культуры

**«Чуў, што моўнай камісіяй Беларускага фонду культуры распрацавана праграма адраджэння нашай роднай мовы. Хацелася б пазнаёміцца з праграмай на старонках «ЛіМа», — піша ў рэдакцыю штотыднёвіка мацавальшчык 3-га рудаўпраўлення вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» імя 50-годдзя СССР Уладзімір Уладзіміравіч Логінаў з Салігорска.**

**Такіх лістоў у рэдакцыйнай пошце нямала. Пішуць іх самыя розныя людзі. Старыя, якія памятаюць «беларусізацыю» 20-х гадоў, і маладыя, нядаўнія выпускнікі школы, якая нават у вёсцы пераставала ўсё больш быць нацыянальнай. Пішуць з Беларусі і з-за межаў рэспублікі.**

**Адгукаючыся на гэтыя чытацкія просьбы, друкуем праект праграмы, распрацаваны моўнай камісіяй БФК яшчэ летась.**

**Па некаторых залежных і незалежных ад рэдакцыі прычынах робім гэта са спазненнем. За апошні час партыйнымі і савецкімі органамі зроблены пэўныя захады для практычнага пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы. Грамадскасць рэспублікі ўсё больш схіляецца да неабходнасці надання беларускай мове статуса дзяржаўнай. Прыгадаем хоць бы нядаўнія выступленні на старонках «ЛіМа» П. Панчанкі, Н. Гілевіча, Г. Далідовіча, гісторыкаў Л. Лыча і М. Ткачова, лісты нашых шматлікіх чытачоў.**

**Праект праграмы моўнай камісіі Беларускага фонду культуры — яшчэ адно пацвярджэнне гэтай думкі: толькі ва ўмовах дзяржаўнасці мовы магчыма наша не толькі моўнае, але і наогул культурнае адраджэнне.**

У многіх кутках свету словы «народ» і «мова» гучаць аднолькава. І гэта невыпадкова. Мова — не толькі сродак зносін людзей. Мова — гэта асноўны сродак культуры. У мове адбіваецца душа народа. У ёй замацоўваецца гістарычны вопыт народа, адлюстроўваюцца асаблівасці яго псіхікі і мыслення, еднасць з іншымі народамі. Мова валодае найбольшым універсалізмам, забяспечвае аптымальную магчымасць нацыянальнага развіцця і гарантыю існавання народа.

Усе мы павінны ўсвядоміць, што чалавецтва нічога не набывае, калі заціхае голас нейкага народа ці племя. Яно становіцца бяднейшым яшчэ на адну мову, перажывае яшчэ адну непапраўную страту. Пытацца, чаму павінна жыць тая ці іншая мова — тое самае, што пытацца, чаму павінен жыць той ці іншы чалавек, той ці іншы народ.

З прызнання самакаштоўнасці кожнай мовы вынікае і асабістая адказнасць кожнага чалавека перад сваім народам і перад усім чалавецтвам за захаванне і развіццё перш за ўсё роднай мовы. У сцвярджэнні гэтай ідэі — найвышэйшы сэнс дзейнасці Камісіі беларускай мовы. У практычнай рэалізацыі гэтай ідэі — яе найвышэйшыя мэты. Дэмакратычнае абнаўленне савецкага грамадства — умова эфектыўнасці нашай працы.

### I

Як і кожная іншая мова, мова беларускага народа прайшла доўгі і складаны шлях развіцця. Яна зведала часы росквіту і часы заняпаду.

Сацыялістычная рэвалюцыя, зрабіўшы рашучы крок да знішчэння нераўнапраўных адносін унутры нацый, стварыла тым самым і магчымасць знішчэння нераўнапраўных адносін паміж нацыямі. Ужо ў першых дэкрэтах і дэкларацыях Савецкай улады былі абвешчаныя такія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, як права народаў на самавызначэнне, роўнасць і суверэннасць, свабоднае развіццё нацыянальных меншасцяў, сацыялістычная федэрацыя без нацыянальных прывілеяў і абмежаванняў. Усе нацыі атрымалі форму сваёй палітычнай арганізацыі — нацыянальную савецкую дзяржаўнасць.

У адпаведнасці з дэмакратычнымі прынцыпамі нацыянальнай палітыкі быў створаны СССР, які стаў радзімай культурнай рэвалюцыі. За гістарычна кароткі час была карэнным чынам перабудавана сістэма народнай асветы і ліквідавана непісьменнасць. На аснове нацыянальных моў была створана шырокая сетка агульнаадукацыйных школ, прафесійных вучылішчаў, культурна-асветных устаноў. Адкрываліся нацыянальныя універсітэты і акадэміі навук. Нараджалася савецкая інтэлігенцыя, якая бачыла свой рэвалюцыйны абавязак у развіцці дэмакратычнай нацыянальнай культуры і ў далучэнні ўсіх народаў СССР да набыткаў сусветнай культуры.

Ленінская канцэпцыя нацыянальнай палітыкі была замацавана ў рашэннях X (1921 г.) і XII (1923 г.) з'ездаў РКП(б). У рэзалюцыі XII з'езда, у прыватнасці, падкрэслівалася неабходнасць таго, каб: «...д) органы нацыянальных рэспублік і абласцей будаваліся пераважна з людзей мясцовых, якія ведаюць мову, быт, норавы і звычаі адпаведных народаў; е) былі выдадзены спецыяльныя законы, што забяспечваюць ужыванне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ва ўсіх установах...»

У адпаведнасці з патрабаваннямі XII з'езда пленум ЦК КП(б)Б (ліпень 1924 г.) прыняў рашэнне аб стварэнні найбольш спрыяльных умоў для развіцця і ўжывання беларускай мовы «з тым, каб з фармальна раўнапраўнай зрабіць яе фактычна раўнапраўнай». Гэта было заканадаўча замацавана ў арт. 22 Канстытуцыі БССР 1927 г.: «Дзякуючы значнай перавазе ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы насельніцтва беларускай нацыянальнасці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі».

Усё гэта прынесла плён. Пачалася беларусізацыя ўсіх сфер грамадскага жыцця: дзяржапарату, школы, ВНУ, навуковых устаноў, прэсы і г.д. Менавіта «беларусізацыя», як рашучае пераадоленне каланіяльнай спадчыны царызму ў нацыянальнай палітыцы, як практычнае ўвасабленне прынцыпаў суверэннага развіцця нацыі, была адным з найбольш значных, вырашальных фактараў, якія абумовілі станаўленне беларускай савецкай культуры і рост свядомасці народа, далучэнне да культурнага і палітычнага будаўніцтва мільёнаў людзей.

Аднак у канцы 20-х гадоў адбыўся адыход ад ленінскіх дэмакратычных прынцыпаў пабудовы сацыялістычнага грамадства. Усталяваліся адміністрацыйна-загадныя, валявыя метады кіраўніцтва, абумоўленыя ўтварэннем цэнтралізаванай палітычнай сістэмы бюракратызму, вульгарызацыяй тэарэтычных палажэнняў марксізму, адмаўленнем ад дэмакратыі.

Адмовіўшыся ад дэмакратызму на практыцы, бюракратычна-загадная сістэма выкінула яго і з тэорыі культуры. Бюракратызм супрацьпаставіў буржуазнай культуры толькі сацыялістычныя элементы нацыянальнай культуры і адкінуў яе дэмакратычныя элементы. Найбольш яскрава гэтая канцэпцыя праявілася ў ідэалогіі і дзейнасці «Пралеткульта», які чэрпаў свае ідэі ў левых дробнабуржуазных вульгарызатараў марксізму. Яны разглядалі нацыянальную культуру капіталістычнага грамадства як з'яву цалкам варожую пралетарыяту, рэакцыйную і шкодную. Дэмакратычная культура залічвалася да буржуазнай. Такія ўстаноўкі прывялі да вынішчэння нацыянальнай культуры народа, помнікаў архітэктуры і гісторыі, фальклору, мовы і гістарычнай памяці, інспіравалі негатыўныя адносіны да інтэлігенцыі і сялянства (носьбітаў дэмакратычнай культуры) і нават да асобных груп рабочых; да гістарычных традыцый побыту і штодзённага жыцця; выклікалі з'яўленне вульгарнага атэізму і вульгарнага сацыялагізму, жывілі практыку функцыянераў сталінскага тэрарызму. Пад лозунгам барацьбы з буржуазным нацыяналізмам знішчалася інтэрнацыянальная дэмакратычная культура народа.

На Беларусі абвінавачванні ў «нацдэмаўшчыне» гучалі часцей за іншыя абвінавачванні. «Нацыяналістычнымі» аб'яўляліся нават асобныя словы беларускай мовы. А за паслядоўнае, прынцыповае карыстанне ёю беларусу пагражаў агульны лёс усіх «ворагаў народа». Так у свядомасць, у памяць народа ўкаранялася думка: нацыянальнага трэба не толькі асцерагацца, але і пазбягаць усяго, што з ім звязана. Гэта адбілася самым адмоўным чынам на псіхалогіі людзей, на лёсе беларускай мовы і беларускай культуры ў цэлым.

Масавыя рэпрэсіі і негатыўнае стаўленне да развіцця дэмакратычнай нацыянальнай культуры вынікалі з сацыяльна-арганізацыйнай сутнасці сталінскай сістэмы бюракратызму, заснаванай на абсалютнай цэнтралізацыі ўлады, уніфікацыі ўсіх дзяржаўных, ідэалагічных функцый і на лявацкіх, дробнабуржуазных па сутнасці, бюракратычных светапоглядзе і псіхалогіі.

Імкненне да цэнтралізацыі і уніфікацыі спосабаў ажыццяўлення ўлады прывяло да абмежавання суверэнных правоў і магчымасцяў рэспублік, да дэкларацыі аб утварэнні «новай гістарычнай супольнасці людзей — савецкага народа», да дэмагагічнай пастаноўкі адкінутага яшчэ У. І. Леніным, наскрозь рэакцыйнага тэзіса аб адзінай дзяржаўнай мове ў СССР пад выглядам абавязковага нацыянальна-рускага двухмоўя ў саюзных рэспубліках. Некаторыя апалагеты гэтай ідэі нават не хавалі яе канчатковай палітычнай мэты — пераходу на адзіную мову — рускую. Іншыя паспяшаліся аб'явіць, што руская мова — «гэта мова камуністаў і ўсіх прагрэсіўных людзей свету, мова будучай эпохі камунізму» («Коммунист Белоруссии», 1972, № 1, с. 22). Тое, што У. І. Ленін яшчэ ў перыяд падрыхтоўкі рэвалюцыі і пазней, у 20-х гадах, выганяў праз дзверы, бюракраты 70-х гадоў уцягнулі праз акно.

Тыповы савецкі бюракрат глядзіць на СССР не як на саюз суверэнных нацыянальных дзяржаў, а як на дзяржаву з адміністрацыйна-нацыянальным падзелам. Увасабленне ідэі аб агульнасаюзнай дзяржаўнай моўнай уніфікацыі (для бюракратыі мова — толькі сродак сувязі) пачалося ў Беларусі ў 30-х гадах шляхам замены кіраўнічых і гаспадарчых кадраў карэннай нацыянальнасці (у большасці рэпрэсіраваных) прысланымі (у асноўным з РСФСР). Тады ж была праведзена валюнтарысцкая рэформа правапісу, якая дэстабілізавала структуру беларускай мовы, аддаліла яе ад народнай, дыялектнай асновы.

У ваенны і пасляваенны перыяд гэтая кадравая палітыка працягвалася пад знакам сталінскага недаверу да насельніцтва, што ў гады вайны апынулася пад акупацыяй. Беларускія школы адміністрацыйным шляхам (часцяком проста з прыхамаці новапрыбылага чыноўніка, які не жадаў, каб ягоныя дзеці вучыліся ў беларускай школе) перарабляліся ў абыход усялякага права на рускія, а беларуская мова ліквідоўвалася ў справаводстве, у кіраўнічым апараце і г. д. — выцяснялася з большасці сфер грамадскага і культурнага жыцця рэспублікі. Утварыўся бюракратычны пласт, варожы да беларускай мовы і абыякавы да культуры. Склалася становішча вымушанага двухмоўя, дзе руская мова пачала замацоўвацца адміністрацыйнай і штодзённай практыкай у якасці адзінай «афіцыйнай» мовы ў БССР. Ліквідаваліся рэшткі канстытуцыйных правоў беларускай мовы. Ужо ў Канстытуцыі БССР 1937 года асобны артыкул пра мову наогул адсутнічаў і толькі ў арт. 96 паведамлялася, што права на адукацыю ў рэспубліцы забяспечваецца, побач з іншымі ўмовамі, і «...навучаннем у школах на роднай мове...» А Канстытуцыя БССР 1978 года ў арт. 43 дапускае ўжо толькі «...магчымасць навучання ў школе на роднай мове...» Тады ж пачалі адкрыта абвяшчаць, што канчатковае вырашэнне нацыянальнага пытанння ў СССР ёсць ні што іншае, як зліццё нацый і моў — зліццё, якое павінна адбыцца на аснове рускай мовы.

### II

Да якіх негатыўных вынікаў прыводзіць такая палітыка нацыянальныя культуры саюзных рэспублік, можна ўжо сёння пераканацца на прыкладзе Беларусі.

1.997.000 вучняў БССР вучацца ў рускамоўных школах і толькі 326.000 у сельскіх беларускамоўных, што складае ўсяго каля 14% школьнікаў. Але нават і гэтыя школы шмат дзе толькі на паперы беларускія, бо выкладанне ўсіх прадметаў (апрача беларускай мовы і літаратуры) і ўся пазаўрочная праца ў іх праводзіцца, як правіла, па-руску. Прытым перад выпускнікамі беларускіх школ не адкрываецца практычна ніякіх сацыяльных моўных перспектыў. У гарадах БССР, дзе беларусы складаюць 71,5% жыхароў і дзе пражывае большасць насельніцтва рэспублікі, няма ніводнай беларускай школы. На 1987—1988 навучальны год у гарадах рэспублікі было дзевяць беларускамоўных класаў (восем у трох мінскіх школах і адзін у Наваполацку), у якіх навучаюцца па 10—15 вучняў у кожным класе.

З'яўленне большасці беларускіх класаў стала магчымым у выніку намаганняў інтэлігенцыі, бацькоў, якім удалося перамагчы супраціўленне чыноўнікаў ад асветы. Вакол гэтых класаў, аднак, створаны вакуум: не хапае падручнікаў, настаўнікаў, метадычнай дапамогі, чыняцца ўсялякія перашкоды.

У Беларусі павінны адчыняцца не «класы», а беларускія школы. Прытым яны павінны адчыняцца адначасова з пераходам на выкладанне вучэбных дысцыплін па-беларуску ў вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах і вучылішчах, адначасова з пераводам справаводства ў рэспубліцы на беларускую мову. Гэта неабходна, каб ажыццявіць адзінства навучання з ніжэйшых ступеняў да вышэйшых і адкрыць маладым людзям працоўную, сацыяльна-грамадскую моўную перспектыву.

Без ажыццяўлення гэтых мерапрыемстваў немагчыма зрушыць справу развіцця беларускай школы. Адкрыццё беларускамоўных класаў у рускамоўных школах, без забеспячэння для вучняў гарантый сацыяльна-культурнага прымянення ведаў, можа толькі скампраметаваць ідэю нацыянальнай школы. Невыпадкова, што за беларускія класы як альтэрнатыву беларускай школе і нацыянальнай сістэме адукацыі ў рэспубліцы пачалі раптам выказвацца некаторыя кіруючыя функцыянеры, нігілістычна настроеныя да беларускай культуры.

За пасляваенны час у БССР, акрамя настаўнікаў-філолагаў, не падрыхтавана **ніводнага** настаўніка для беларускамоўнай пачатковай і сярэдняй школы. Настаўнік, што не валодае беларускай мовай і тэрміналогіяй, імкнецца выкладаць свой прадмет па-руску, практычна падтрымлівае, ажыццяўляе поўны перавод беларускай школы на рускую мову. У беларускіх школах хранічна нестае нават настаўнікаў беларускай мовы. Здараецца, што яе выкладаннем займаюцца настаўнікі без філалагічнай адукацыі і пенсіянеры. Колькасць беларускамоўных школ, як і раней, няўхільна скарачаецца. У Мінскай вобласці, напрыклад, за апошнія 15 гадоў іх паменшала ўдвая.

Трывожнае становішча склалася ў выдавецкай справе. У 1984 годзе ўдзельная вага выданняў мастацкай літаратуры на беларускай мове ў рэспубліцы склала 4,7% ад агульнай колькасці такіх выданняў. Працэнт беларускамоўных выданняў грамадска-палітычнай, навуковай, тэхнічнай літаратуры яшчэ меншы. У той час як колькасць экземпляраў выданняў на мовах усіх саюзных рэспублік у пасляваенныя гады ў СССР няспынна расла (так, з 1940 па 1981 гг. агульны тыраж кніг на ўкраінскай мове вырас у 2,4 раза, на ўзбекскай — у 2,9, на грузінскай — у 2,9, на рускай і літоўскай — у 4,5 раза, на эстонскай — у 5,9 раза, на малдаўскай — у 6,6 раза), агульная лічба беларускамоўных кніг, выдадзеных за год, фактычна застаецца на адным і тым жа ўзроўні (у 1940 г. было выдадзена 7,8 млн. экз., а ў 1981 — 7,9 млн.). Агульны тыраж шасці рэспубліканскіх газет на беларускай мове ў 10 разоў меншы за тыраж

**Праект праграмы друкуецца з некаторымі скарачэннямі.**

пяці рускамоўных рэспубліканскіх газет.

Пры гэтым мова большасці беларускамоўных газет зазнае паслядоўную і мэтанакіраваную лексічную, марфалагічную і сінтаксічную дэструкцыю, запаўняецца калькамі з рускіх формаў. Ствараюцца жаргонныя стэрэатыпы, якія ў жывой беларускай мове не існуюць і не ўзнікаюць. Абмярцвенне беларускай мовы ў газетных формах выклікана перш за ўсё валюнтарысцкай, заснаванай на вульгарызатарскіх канцэпцыях палітыкай так званага збліжэння моў, паводле якой нацыянальныя мовы павінны «набліжацца» да рускай мовы.

Нават такая неабходная інтэрнацыянальная задача, як выпуск беларуска-іншамоўных і іншамоўна-беларускіх слоўнікаў, што спрыяе непасрэдным кантактам паміж мовамі і народамі, нават гэтая задача аказалася нявыкананай і падпарадкаванай уніфікацыйнай бюракратычнай палітыцы. Слоўнікаў няма. Беларусы, беларускія дзеці вымушаны вывучаць іншую мову толькі апасродкавана праз рускую, праз рускія падручнікі і іншамоўна-рускія слоўнікі. Яшчэ ў горшым становішчы прадстаўнікі тых народаў, якія хацелі б вывучыць беларускую мову, не ведаючы рускай. Для іх у такім разе беларуская мова фактычна недасягальная. Пра якія інтэрнацыянальныя кантакты і ўзаемаразуменне ў такім разе можна гаварыць?

Ці можна наогул гаварыць пра інтэрнацыянальнае выхаванне і ў самой школе, дзе павінны закладацца яго асновы, калі, напрыклад, у рэспубліцы ў праграме для 4—10 класаў школ з рускай мовай навучання прадугледжваецца 1380 гадзін на рускую мову і літаратуру, 783—на беларускую мову і літаратуру, а на літаратуру народаў СССР—толькі 4 гадзіны. У школах з беларускай мовай навучання адпаведна: 1279—886—4.

Аднак найбольш разбуральныя вынікі дэстабілізацыі моўнай сітуацыі ў рэспубліцы назіраюцца ў сацыяльна-культурным жыцці. Вымушанае двухмоўе, прытым усталяванае груба, без якога-небудзь навуковага разумення працэсу, прыводзіць, як правіла, да паўмоўя—такога становішча, калі чалавек не валодае ніводнай мовай, а размаўляе на змешанай гаворцы. У паўмоўнага чалавека недастаткова развітая здольнасць фарміраваць абстрактныя катэгорыі, адцягненыя паняцці, выразна выкладаць думкі. Жывучы ў хаатычным бязладдзі вымушанага, некантраляванага двухмоўя, такі чалавек не ў стане дасканала засвоіць ні адну, ні другую сістэму мовы; яму цяжка ідэнтыфікаваць сябе як асобу, прыналежную да пэўнай культуры. Пры паўмоўі адбываецца структурная дэфармацыя моўных сістэм, што абцяжарвае функцыяніраванне і развіццё інтэлекту. Сацыяльным вынікам паўмоўя ў грамадстве з'яўляецца паўкультурнасць, якая вядзе да бескультур'я.

Шкодным вынікам вымушанага двухмоўя з'яўляецца нацыянальны нігілізм — зняважлівае, адмоўнае стаўленне да мовы і культуры ўласнага народа. Гэта надзвычай рэакцыйная і антыгуманная з'ява распаўсюджана зараз шмат у якіх рэспубліках СССР, пераважна ў асяроддзі бюракратыі.

Дэстабілізацыі моўнай сітуацыі ў рэспубліках і тармажэнню нацыянальнага моўнага развіцця садзейнічае дэмаграфічная палітыка бюракратыі, што праводзіцца эканамічнымі метадамі—цэнтралізаваным размяшчэннем буйных прадпрыемстваў на тэрыторыі рэспублік, якія не ў стане забяспечыць іх рабочай сілай, развіццём звышгарадоў, стварэннем перадумоў для адмоўнай міграцыі насельніцтва, зменаю яго складу, маніпуляцыяй працоўнымі рэсурсамі пад выглядам неабходнасці развіцця эканомікі і г.д.

Неабходна, урэшце, выканаць ленінскі запавет і «ўвесці найстражэйшыя правілы адносна ўжывання нацыянальнай мовы ў іншанацыянальных рэспубліках, якія ўваходзяць у наш саюз, і праверыць гэтыя правілы асабліва старанна», распрацаваць «дэталёвы кодэкс, які могуць скласці колькі-небудзь паспяхова толькі нацыяналы, якія жывуць у дадзенай рэспубліцы» (Ленин В. И. Полн. собр. соч., т. 45, с. 361).

Прызнанне СССР добраахвотным саюзам 15-ці раўнапраўных і суверэнных дзяржаў павінна з'яўляцца і аднačасным прызнаннем статуса дзяржаўнасці за ўсімі 15-цю мовамі асноўнага насельніцтва саюзных рэспублік.

Адносіны да нацыянальнай мовы, да развіцця нацыянальнай культуры, да рэальнага забеспячэння права нацый на самавызначэнне асноўнае пытанне сацыялістычнай дэмакратызацыі грамадства і ўсялякай дэмакратычнай палітыкі.

Праграма адраджэння беларускай мовы можа быць ажыццёўлена толькі ў выніку перабудовы грамадска-палітычнай сістэмы на прынцыпах глыбокай дэмакратыі і паслядоўнага сацыялізму. Яна прадугледжвае не толькі вяртанне да зыходных пазіцый моўнай беларусізацыі ўсяго жыцця рэспублікі, не толькі адраджэнне ленінскіх прынцыпаў у нацыянальнай палітыцы, але і далейшае іх развіццё ў варунках нашага часу, у святле новых сацыяльна-культурных задач, што стаяць перад народамі, ва ўмовах рэвалюцыйнай перабудовы грамадства.

## ПЕРШАЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ

Пытанне лёсу і далейшага развіцця мовы—гэта дзяржаўнае пытанне. Дзяржаўнасць мовы ў межах Беларускай ССР прадугледжвае:—наданне беларускай мове функцый рабочай мовы ва ўсіх установах і ведамствах рэспублікі, а таксама ў грамадска-палітычных арганізацыях; перавод справаводства на беларускую мову;

— выданне на беларускай мове ўсіх рэспубліканскіх газет і часопісаў, трансляцыю на ёй праграм рэспубліканскага радыё і тэлебачання;

— навучанне на беларускай мове ва ўсіх вышэйшых, сярэдніх і сярэдніх спецыяльных установах рэспублікі (з адкрыццём пры іх падрыхтоўчых курсаў беларускай мовы для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў);

— забеспячэнне рэальнай магчымасці выхавання дзяцей іншых нацыянальнасцяў у дашкольных установах і навучанне іх у агульнаадукацыйных школах на роднай мове з абавязковым вывучэннем беларускай мовы;

— гарантаванае Канстытуцыяй БССР забеспячэнне рэальнай магчымасці развіваць сваю мову і культуру прадстаўнікам іншых нацыянальнасцяў;

— аказанне неабходнай дапамогі з боку БССР стварэнню адпаведных умоў развіцця для беларускай нацыянальнай меншасці ў іншых саюзных рэспубліках і краінах.

Рэалістычна ацэньваючы стан сучаснай нацыянальна-моўнай праблемы ў рэспубліцы, камісія бачыць бліжэйшую перспектыву ў забеспячэнні фактычнай роўнасці беларускай і рускай моў. Бо толькі дасягнуўшы рэальнага іх раўнапраўя, толькі практычна сцвердзіўшы ўжыванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця нароўні з рускай, можна стварыць умовы для ПРЫЯРЫТЭТНАГА развіцця роднай мовы асноўнага насельніцтва Беларусі.

Камісія лічыць, што для вырашэння гэтай задачы першаступеннае значэнне маюць наступныя захады:

— стварэнне дзяржаўнага органа, адказнага за ахову і развіццё мовы;

— неадкладная арганізацыя ва універсітэтах, педагагічных інстытутах і вучылішчах падрыхтоўкі настаўнікаў для беларуска-моўных школ і выхавальнікаў дашкольных устаноў;

— паступовае стварэнне беларускамоўных школ у колькасці, адпаведнай працэнту беларускага насельніцтва ў рэспубліцы. Адмова ад практыкі арганізацыі асобных, ізаляваных беларускіх класаў у рускіх школах. Стварэнне ў гарадах рэспублікі неабходнай колькасці базавых школ з паглыбленым вывучэннем роднай мовы і літаратуры, гісторыі, культуры. Паслядоўнае захаванне адзінства моўнага рэжыму ва ўсіх школах, а таксама забеспячэнне моўнай пераемнасці паміж усімі ступенямі народнай адукацыі;

— правядзенне аналагічнай работы ў дашкольных установах з мэтай практычнага забеспячэння выхавання і навучання дзяцей на роднай мове;

— планамерны перавод на беларускую мову навучання студэнтаў гуманітарных факультэтаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў з абавязковым экзаменам па беларускай мове для ўсіх абітурыентаў. Вывучэнне беларускай мовы на ўсіх астатніх факультэтах ВНУ, аддзяленнях тэхнікумаў і вучылішчаў. Паступовы пераход да выкладання па-беларуску спачатку гуманітарных, а затым і іншых дысцыплін, а таксама стварэнне беларускамоўных аддзяленняў у навучальных установах негуманітарнага профілю. Пры гэтым перавод выкладання ў розных ВНУ на беларускую мову не павінен ставіцца ў залежнасць ад наяўнасці там замежных студэнтаў. Апошнія павінны навучацца на мове, прынятай за асноўную на іхнім курсе (у групе);

— перагляд метадычна і лінгвістычна не апраўданай практыкі накіравання на вучобу ў БССР студэнтаў і стажораў-русістаў з неславянскіх рэспублік і іншых краін, паколькі выкладчык любой мовы можа паспяхова авалодваць ёю толькі на яе этнічнай тэрыторыі;

— узнаўленне выдання на беларускай мове «Сельской газеты», «Физкультурника Белоруссии», а таксама часопісаў «Коммунист Белоруссии», «Политический собеседник», «Сельское хозяйство Белоруссии», «Здравоохранение Белоруссии». Выданне беларускамоўных паралеляў газет «Советская Белоруссия», «Знамя юности» і «Зорька» з паступовым павелічэннем іх тыражу (як і тыражу газеты «Вячэрні Мінск», часопіса «Крыніца») прапарцыянальна колькасці беларусаў у рэспубліцы. Перавод на беларускую мову часопісаў «Промышленность Белоруссии», «Народное хозяйство Белоруссии», «Строительство и архитектура Белоруссии», «Сельское строительство Белоруссии», «Доклады АН БССР», абласных («Гродненская правда», «Заря»), раённых і шматтыражных газет. Перавод «Весцяў АН БССР» і «Весніка БДУ» цалкам на беларускую мову. Стварэнне новых рэспубліканскіх беларускамоўных часопісаў навукова-папулярнага, музычнага, спартыўнага і інш. напрамкаў; часопісаў, прысвечаных праблемам дашкольнага выхавання і пачатковай школы. Стварэнне рэгіянальных і абласных часопісаў, альманахаў і іншых друкаваных выданняў;

— планамернае павелічэнне тыражу і колькасці беларускамоўных выданняў грамадска-палітычнай, навуковай, навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры. Факсімільнае выданне помнікаў беларускага пісьменства (рукапісных кніг, летапісаў, кніг Ф. Скарыны, гадавікоў «Нашай Нівы» і інш.). Значнае павелічэнне перакладаў на беларускую мову мастацкіх і навуковых твораў з іншых моў народаў СССР і свету. Выданне поўных збораў твораў класікаў марксізму-ленінізму (у перакладзе з арыгінала). Павелічэнне аб'ёму і ператварэнне ў часопісы альманахаў-штогоднікаў «Братэрства» і «Далягляды»;

— перавод на беларускую мову абласных тэатраў, а таксама іншых культурных і культурна-асветных устаноў ведамаснага, раённага, абласнога і рэспубліканскага значэння;

— стварэнне беларускамоўных мастацкіх і дакументальных кінастужак на студыі «Беларусьфільм». Дубліраванне на беларускую мову фільмаў, прызначаных для паказу ў кінатэатрах рэспублікі;

— дубліраванне на беларускую мову ўсіх кіна-, тэле- відэа-, мультыплікацыйных фільмаў, якія паказваюцца па Беларускім тэлебачанні, з наступным захаваннем іх у фондах ТБ і відэатэках. Планамерны пераход рэспубліканскага ТБ да цалкам беларускамоўнага рэжыму работы;

— паступовы пераход да беларускамоўнага справаводства ва ўсіх звенях дзяржаўнага апарату і грамадска-палітычных арганізацый рэспублікі;

— планамернае пашырэнне беларускамоўнай візуальнай і гукавой інфармацыі на транспарце, ва установах гандлю і абслугі, у наглядна-агітацыйным і мастацкім афармленні гарадоў і паселішчаў, на ўпакоўцы прамысловых і харчовых тавараў і г. д. Паступовы перавод гэтай інфармацыі на беларускую мову (з дубліраваннем яе на іншых мовах толькі ў выпадках сапраўднай неабходнасці.

Камісія разумее, што пастаўленыя задачы можна вырашыць толькі паступова і толькі агульнымі намаганнямі ўсіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, партыйных і прафсаюзных, камсамольскіх і гаспадарчых органаў, пры свядомым і дзейсным удзеле кожнага грамадзяніна БССР. Па сутнасці, гэта праграма нацыянальнага адраджэння. Выканаць яе можна толькі пры падтрымцы ўсяго народа. Менавіта з гэтай прычыны камісія сваімі галоўнымі сродкамі для дасягнення пастаўленых мэт бачыць сродкі асветніцтва, прапаганды і агітацыі.

Камісія падтрымлівае ўсе пачынанні дзяржаўных органаў, партыйных і грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў і самадзейных аб'яднанняў, скіраваныя на развіццё нацыянальнай культуры і мовы, і працуе ў шчыльным кантакце з імі. Камісія супрацоўнічае з іншымі камісіямі Беларускага фонду культуры.

Сваімі непасрэднымі задачамі камісія беларускай мовы лічыць:

— арганізацыю сваіх абласных, гарадскіх і раённых аддзяленняў;

— тэарэтычны аналіз стану нацыянальнага пытання ў СССР і БССР, усебаковае даследаванне праблем узаемадзеяння нацыянальных культур, паслядоўнае вывучэнне пытанняў функцыяніравання беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця рэспублікі, абмеркаванне вынікаў гэтых даследаванняў на навуковых і навукова-практычных канферэнцыях, а таксама на старонках газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні;

— вывучэнне і шырокае асвятленне вырашэння нацыянальных праблем у іншых саюзных рэспубліках і краінах свету;

— удзел у распрацоўцы праекта Закона аб ахове мовы як найвялікшай культурнай і духоўнай каштоўнасці;

— аказанне дзейснай дапамогі адпаведным дзяржаўным установам у распрацоўцы для ўсіх звенняў асветы вучэбных праграм па беларускай мове і літаратуры, а таксама метадычных дапаможнікаў: падручнікаў, хрэстаматый, фільмаў, пласцінак, камп'ютэрных праграм, відэакасет і г. д.;

— працу па неадкладнай падрыхтоўцы (сумесна з адпаведнымі арганізацыямі і ўстановамі) тэрміналагічных слоўнікаў па асноўных галінах сучасных ведаў, беларуска-іншамоўных і іншамоўна-беларускіх слоўнікаў шматмэтавага выкарыстання. Напісанне новых і пераклад на беларускую мову наяўных падручнікаў для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Практычнае забеспячэнне пераходу да вывучэння іншых моў (замежных і народаў СССР) на базе роднай распрацоўкай патрэбных дапаможнікаў. Падрыхтоўку падручнікаў і размоўнікаў беларускай мовы для небеларусаў. Падрыхтоўку да перавыдання слоўнікаў 20-х гадоў;

— арганізацыю курсаў беларускай мовы пры дзяржаўных установах, установах асветы, што будуць пераходзіць на беларускамоўны рэжым працы, культурна-асветных установах, у самадзейных гуртках і аб'яднаннях. Стварэнне на базе гэтых курсаў універсітэтаў беларусазнаўства з шырокім асвятленнем пытанняў гісторыі і культуры Беларусі. Стварэнне дзіцячых цэнтраў беларускай культуры;

— арганізацыю пры Фондзе культуры курсаў моў суседніх народаў (на базе беларускай);

— стварэнне пры камісіі аб'яднання настаўнікаў;

— агітацыйную і прапагандысцкую працу сярод бацькоў школьнікаў і выхаванцаў дзіцячых садоў, скіраваную на развіццё нацыянальнай культуры і адукацыі;

— наладжванне ў працоўных калектывах, навучальных і культурна-асветных установах «Свят роднай мовы» і іншых мерапрыемстваў, звязаных з актуальнымі пытаннямі ўздыму нацыянальнай культуры і скіраваных на практычнае пашырэнне сферы ўжытку беларускай мовы;

— арганізацыю і правядзенне шырокіх абмеркаванняў пытанняў беларускага правапісу. Правядзенне канферэнцыі, прысвечанай гэтаму пытанню;

— стварэнне грамадскага органа кантролю за культурай мовы ў сродках масавай інфармацыі. Наладжванне і вядзенне рубрык культуры мовы ў беларускамоўных перыядычных выданнях, а таксама ўрокаў беларускай мовы на старонках рускамоўных газет і часопісаў, у перадачах рэспубліканскага радыё і тэлебачання. Арганізацыю дзяжурстваў кансультантаў пры «гарачым моўным тэлефоне»;

— падтрымку выкарыстання беларускай мовы ў канфесійнай дзейнасці.

Час дае беларусам, як і іншым народам, яшчэ адзін гістарычны шанц вярнуць годнасць сваёй нацыі і мове. Наш лёс склаўся так, што і сёння, пасля 70 гадоў Савецкай улады, мы вымушаны, як і папярэджваў У. І. Ленін, шмат што не толькі дарабляць, перарабляць, але і пачынаць спачатку. Нас чакае высакародная праца, праца, якая павінна стаць нашым святым абавязкам.

